

Анна Грэсь ➔3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




«Ручаёк» з Белавежы➔4


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 49 (3317) Год LXIV

Беласток, 8 снежня 2019 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# У Мастаўлянах
## надалей па-партызанску

Сёння ў Мастаўлянах канчаецца Польшча і, здавалася, што аб гэтай вёсцы Польшча ўжо забыла. Даехаць туды можна — гміна стараецца, каб пагранічнікі беспраблемна патрулявалі мяжу. Аднак зімою людзі для бяспекі возяць у багажніку лапату. Праўду кажучы, ім бліжэй Мастаўлян, тым дарогі становяцца вузейшымі. Нават новая асфальтоўка з Зуброў выглядае як аднабаковая дарога, праўда — дарога на Захад, але ўсё ж такі некамфортная для кіроўцы. Здаецца, гміна не прадбачыла, што тут могуць мыляцца вадзіцелі машын. Аднак 29 лістапада вочы ўсёй Польшчы, а можа і вочы з Усходу, былі звернуты ў напрамку Мастаўлян. Жыхары вёскі былі крыху здзіўлены колькасцю дзяржаўных машын, СМІ і людзей. Для бяспекі трымаліся блізка сваіх платоў на выпадак, калі трэба было б схапіцца за штыкету. Здаецца, што ў мастаўлянцаў паўстанцкі дух не памёр і паколькі нехта быў здзіўлены візітам прэм'ер-міністра Польшчы ў Мастаўлянах, гэта напэўна не былі яны.



— Не мае іншых клопатаў? — здзівіўся спадар Уладзіслаў, стоячы пад сваёй старой яблыняй пры плоце. — Э, гэта ўсё палітыка, — дадаў, не маючы намеру далучыцца да прывітальнага камітэта, які сабраўся ля помніка Каліноўскаму. Менавіта тут 2 кастрычніка 2015 года прайшло афіцыйнае адкрыццё помніка Кастусю Каліноўскаму. Тады ўрачыстасць прыцягнула мясцовыя ўлады, жыхароў гміны і даследчыкаў, якія вывучаюць біяграфію Каліноўскага. Мясцовыя тады таксама трымалі дыстанцыю.

— Цешымся, што прэм'ер наведаў нашу зямлю, ды яшчэ з нагоды ўшанавання памяці Кастуся Каліноўскага, — сказаў войт гміны Гарадок Веслаў Кулеша. — 22 лістапада ў Вільні адбылося перапахаванне парэшткаў Кастуся Каліноўскага. У гэты дзень помнік наведалі ўлады гміны. У праграме наведвання прэм'ерам Падляшша таксама знайшоўся час, каб ушанаваць памяць героя паўстання 1863-1964 гадоў.

Прэм'ер спазняўся, але далучыліся новыя асобы з ваколіцы, прадстаўнікі улад гміны, павета, ваяводства... — Чаму так доўга яго няма? — спытаў нехта ў ахоўніка Бюро аховы ўрада.

— Паволі едуць, дрэнная дарога.

— То ж падраўнялі!

Мастаўлянцы не лічаць сябе жыхарамі «канца Польшчы». Некаторыя з іх уцешыліся візітам прэм'ера:

— Пэўна, хай прыедзе і гляне, якія тут дарогі! Сорам! — сказала старэйшая жанчына, якая таксама не наблізілася да людзей пры помніку.



Жанчына сама рэдка выязджае з вёскі, вадзіцельскіх правоў ніколі не мела, але лічыць, што ў вёсцы павінен быць харошы асфальт. Мяжа, якую відаць з-за платоў, жыхарам, здаецца, у нічым не перашкаджае, а напэўна не перашкаджае думаць, што не было і няма тут ніводнага канца.

Солтыс вёскі Мастаўляны Мікалай Сэўрын размаўляе па-свойму, але менавіта таго дня вырашыў, што не будзе. З-за пашаны да прэм'ера.

— Ну, гляньце, што бацюшка павесіў на дрэвах, — сказаў солтыс, паказваючы карткі з чырвоным надпісам. — Гэта ў парадку? Яны таксама гавораць па-свойму! З імі паразмаўляйце.

Нехта з прадстаўнікоў Гарадоцкай гміны пазрываў карткі з дрэў, на якіх была інфармацыя аб забароне фатаграфаваць царкву, якая стаіць насупраць помніка. Спачатку хацелі званіць матушцы, высвятляць, але трэба было хутка дзейнічаць. Вось зараз меў прыехаць прэм'ер.

Матэвуш Маравецкі ўсклаў кветкі да помніка Кастусю Каліноўскаму, называючы яго героем трох народаў. Прэм'ер-міністр успомніў таксама перапахаванне герояў паўстання 1863-1864 гадоў, якое адбылося 22 лістапада ў Вільні, падкрэсліваючы, што з'ехаліся там польскія, беларускія і літоўскія патрыёты.

Войт Гарадоцкай гміны запрашаў у гасцінны Гарадок і падарыў прэм'еру Польшчы кніжкі пра праваслаўе на Падляшшы.

— Стараемся ладзіць мерапрыемствы, якія прыпамінаюць аб мінуўшчыне нашай гміны, — сказала дырэктарка Гміннага цэнтра культуры Магдалена Лотыш. — Нашым абавязкам з'яўляецца культываванне памяці аб героях нашай зямлі, тым больш што Кастусь Каліноўскі з'яўляецца патронам нашага дома культуры.

У Гмінным цэнтры культуры захоўваюцца партрэт і дошкі, якія калісьці віселі на будынку школы ў Мастаўлянах з надпісам: «У Мастаўлянах 2 снежня 1838 года нарадзіўся Кастусь Каліноўскі — змагар за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне палякаў і беларусаў. Арганізатар і кіраўнік Студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве. Загінуў ад рук царскіх сатрапаў 10.03.1864 г. Ушаноўваючы памяць героя, жыхары Мастаўлян прысвойваюць школе яго імя». Будынак школы быў прададзены прыватнай асобе, а дошкі выратаваў тагачасны дырэктар ГЦК Юрка Хмялеўскі. Солтыс Мастаўлян сказаў, што пакупнік не цікавіцца будынкам, які напэўна хутка развaліцца зусім.

— Э-э-э там, беларусы — бязмозгі народ, — сказаў спадар Уладзіслаў, гледзячы здалёк на людзей сабраных пад помнікам. — Ніколі не стаялі ў абароне свайго — рускія сабе раздзіралі, палякі сабе...

— А што думаеце пра самога Каліноўскага? — спытала я.

— Маеце інтэрнэт і там чытайце. Я многа знаю і не хачу баўтаць.

Сусед Уладзіслава толькі пад яблыняй, далёка ад людзей, сказаў, што ён таксама па-беларуску размаўляе і далучыўся да размовы.

— То праўда, — дадаў сусед Уладзіслава. — Я быў у Беларусі і гавару адной жанчыне: «Герб свой страцілі!» А яна адказала: «І добра, на халеру нам коні!?»

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**





# Прапаганда і праўда

Тыдзень прайшоў пасля віленскіх урачыстасцей па пахаванні паўстанцаў 1863 года, а водгулле падзеі не сціхае. Тыя сябры і знаёмыя, хто з розных прычын не здолеў патрапіць у нашу старажытную сталіцу ў дзень мемарыяльнага ўшанавання, працягваюць тэлефанаваць і распытваць падрабязнасці. У беларускай незалежнай прэсе і на інтэрнэт-прасторы людзі надалей актыўна дзеляцца ўражаннямі, каментарыямі, яркімі фотаздымкамі і цікавым відэа, не шкадуюць выяўляць эмоцыі. Там-сям узнікаюць спрэчкі, дыскусіі, якія выходзяць за рамкі ўласна падзеі. Спрэчкі датычныя нашых нацыянальных гімнаў, спрэчкі датычна асвятлення ўрачыстасцей у медыях, спрэчкі адносна стасункаў народу і дзяржавы Рэспублікі Беларусь, спрэчкі пра гістарычныя і цяперашнія дачыненні беларусаў і суседзяў.

Ацэньваць гэтыя дыскусіі, часам досыць вострыя і зацятыя, можна па-рознаму. Некаторыя выказваюцца ў тым духу, што няма чаго дзяліць шкуру неўпалянага мядзведзя, пакуль у нашым нацыянальным доме бяда. Гэта, прыкладам, да спрэчак пра тое, які з трох нашых гістарычных гімнаў павінен стаць дзяржаўным у перспектыве.

Шырокі розгалас атрымала выказванне дырэктаркі тэлеканала Белсат Агнешкі Рамашэўскай-Гузы, якая справядліва абурылася неаб'ектыўнасцю (і гэта зараз мякка сказана), якую выявіў пры асвятленні віленскага пахавання вядомы польскі тэлеканал TVP. Тэлевізійнікі гэтага канала старанна ў сваім рэпартажы пастараліся „не заўважыць" на ўрачыстасці шырокую прысутнасць беларусаў, прадстаўляючы іх як „палякаў з Літвы", а бел-чырвона-белы сцяг у адным фрагменце паказалі як бел-чырвоны. Відаць, перад гэтым з'ездзілі на стажыроўку да лукашэнкаўскай тэлевізійнай абслугі. Тая ж дасягнула вышэйшага пілатажу ў сваім майстэрстве, змогшы зляпіць сюжэт, у якім з соцень бел-чырвона-белых сцягоў не было бачна аніводнага (!). Пазней старшыня Белтэлерадыёкампаніі Іван Эйсмант, душой і целам адданы свайму сённяшняму начальніку, заявіў, што вобраз Каліноўскага выкарыстоўваюць для расколу грамадства, яго „дэманстратыўна кладуць пад бел-чырвона-белы сцяг". Потым адзін з галоўных прапагандыстаў РБ схлусіў, што ў дзяржаве шануюць Каліноўскага — „у нас улицы называют его фамилией". Насамрэч у Беларусі некалькі вуліц гарадоў былі названы ў гонар Кастуся Каліноўскага яшчэ за савецкім часам, тады ж яму пастаўлены і адзіны невялічкі помнік-бюст у Свіслачы. Яшчэ можна паведаміць „эйсмантам", што змагаліся паўстанцы якраз пад штандарамі са спалучэннем белага і чырвонага колераў у розных варыянтах. А таксама напомніць, што бел-чырвона-белы сцяг быў у нас дзяржаўным, менавіта пад ім даваў прысягу на Канстытуцыі першы і апошні прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Эйсмант тады быў яшчэ хлопчыкам і можа не памятаць.

Тут хацелася б яшчэ раз падзякаваць тэлеканалу Белсат, які вёў шматгадзінную трансляцыю ўрачыстасці, якую, калі хто не бачыў, можна паглядзець у інтэрнэце па гэтай спасылцы: **https://belsat.eu/tag/kalinouski-2019/**. Паглядзець, каб убачыць, як усё адбывалася насамрэч у Вільні.

У працяг віленскіх урачыстасцей на нашай сумежнай прасторы праз тыдзень адбылася яшчэ адна знакавая падзея. Прэм'ер-міністр Польшчы Матэвуш Маравецкі ў час візіту на Падляшша, наведаў Мастаўляны і ўсклаў кветкі да помніка Каліноўскаму, заявіўшы, што гэта герой трох народаў. На маёй памяці такое прызнанне першае ў гісторыі сучаснай Польшчы. Прызнанне справядлівае і своечасовае. Спадзяюся, што зараз афіцыйныя польскія дэлегацыі і неафіцыйныя групы палякаў ужо не будуць старанна абмінаць у Свіслачы помнік Каліноўскаму, ускладаючы кветкі толькі да помніка Траўгуту. Беларускія патрыёты ўжо 25 гадоў не робяць такога падзелу, ушаноўваючы ўсіх паўстанцаў. Кастусь Каліноўскі нарадзіўся на Падляшшы, Зыгмунт Серакоўскі — на Валыні, Рамуальд Траўгут — на Берасцейшчыне, Баляслаў Калышка — на тэрыторыі сучаснай Літвы. Усе яны выступілі за вольнасць свайго краю, якую маглі бачыць, канешне, па-рознаму. Але гістарычная праўда ў тым, што ўсе яны змагаліся супраць расейскай імперыі, а значыць за праўду, справядлівасць, незалежнасць зняволеных народаў. І гэтая праўда павінна быць вышэй усялякай прапаганды.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Застаўся толькі гузік



Я заўсёды трапляю ў граматычную няўцямнасць, калі спрабую спалучыць у фразеалагічныя адносіны звычайны гузік з грубай дзіркай, пятліцай. Які выраз правільны — ён ад яе, ці яна ад яго? Інтуітыўна мне здаецца, што першая фраза робіць дзірку падпарадкаванай гузіку, другая ставіць іх у зваротным парадку. Праблема банальная, нават прадумана, шукае проста дзірку ў цэлым. Гэтак жа, як і яшчэ адна дылема, звязаная з адносінамі ўлады і грамадства. Ці павінна яна быць яму падначаленай, ці тое служэнне ёй павінна грамадства? Адказ не такі відавочны. Шмат што залежыць ад таго, што гэта за ўлада, і ў выніку якіх сацыяльных парываў яна фарміравалася. І, нарэшце, якое яно само грамадства: ці адукаванае, ці сплаве яно, наколькі ўсведамляе небяспеку празмернага патурання ўладзе. Вярнуся да пятліцы і гузіка... Дык гэта ЯНА для яго, ці ён для ЯЕ?

Лагічна, што абедзве формы здаюцца трапнымі. Такім чынам, дзірка можа быць для гузіка і наадварот. Усё залежыць ад перспектывы. У любым выпадку, гэта не будзе мець ніякага ўплыву на яе функцыянальную сувязь з гузікам, пакуль адно адпавядае другому. Напрыклад, дадзеная дзірка вось у такім паліто... Гэта не можа быць выпадковым. Таксама яе памер і размяшчэнне. Інакш, калі мы глядзім на дзірку з уласнага пункту гледжання. Перш за ўсё, мы ў думках адрозніваем яе ад любой непажаданай і выпадковай дзіркі і нават на рукаве. Каб вызначыць яе невыпадковы статус, мы кажам, што яна знаходзіцца пад гузікам, а ў думцы — пад вось такім гузікам. А калі дзірка сама пра сябе, гэта значыць без гузіка? Ба! Калі б хтосьці настойваў на прыстасаванні да яе любога гузіка, ён быў бы падвергнуты здзекам і нават сацыяльным дамаганням. Гаворка ідзе пра дзірку ў элегантным касцюме — пятліцу ў бутаньерцы. Для яе прызначана толькі кветка. Толькі хто сёння прахаджваецца ў летніку з кветкай у пятліцы? Ну, эстэтычныя парадыгмы мяняюцца так жа хутка, як і звычаі. Напэўна, многіх вытанчаных элегантных мужчын дваццаць-трыццаць гадоў таму ахапіў бы сардэчны прыступ, пагдзеўшы на прэзідэнта Рэспублікі Польшчы Дуду, які носіць цеснаватыя касцюмы з закароткімі рукавамі. Цяпер гэта стылёва! Вернемся да дзіркі. Мала хто ведае, што яе гісторыя мае пэўныя храналагічныя парушэнні, якія ўзнікаюць у выніку таго, што мы не ведаем, калі была створана дзірка, а калі гузік. Бо мы несумненна ведаем, што першым быў... гузік! Гэта яскрава прадэманстравана гістарычнымі даследаваннямі. Аднак спачатку гузік быў хутчэй дэкаратыўны, чым практычны. У службовай форме як гуз ён служыў чалавечай пысе і ганарыстасці. Гузікамі слановай косці апраўленымі золатам і срэбрамі ўпрыгожваліся, як ардэнамі, толькі вялікія паны і багатыя купцы. Ніжнія сацыяльныя пласты, каб злучыць сваю марную тканіну, задавальняліся драцяной шпількай, гаплікам або шнурочкам. З цягам часу была вынайдзена даволі дэмакратычная пятля, якая доўгі час суіснавала з усё больш сплюшчаным гузікам. Ужо сёння мы знаходзім іх цесную сувязь у выразе «гузік з пяцелькай», што з'яўляецца эквівалентам цвёрдай апазіцыі. У наш час скарочаная форма больш вядомая: «А гузік табе!» Справа ў тым, што празмернае знаходжанне гузіка ў пятліцы даказвае яе гістарычнае першынство. Падобна да канцэпцыі ўлады. Адпавядаючае ёй паняцце «грамадства» з'явілася значна пазней, хаця сёння адно без другога само па сабе нічога не значыць. Ні старажытнасць, ні ранняе сярэднявечча не ведалі пра адмысловую дзірку для гузіка. Першыя і сарамлівыя адтуліны, прадбачваючыя пятліцу для гузіка, з'явіліся толькі ў канцы XIII стагоддзя, непасрэдна да пачатку эпохі Адраджэння, і толькі потым тыя дзіркі сталі такімі ж незаменнымі, як і самі гузікі.

Вечная непрыемнасць з гэтымі гузікамі! З дзіркамі таксама, але зусім іншыя. Скажам, хтосьці злосна сарве гузік з нашага паліто... Тады дзірка з-пад гузіка здаецца быць зусім непатрэбнай. Як вы бачыце з вышэйсказанага, гузік — справа сур'ёзная. Напярэдадні Другой сусветнай вайны яго разліковы кошт нават перавысіў цану горада Гданьск разам з кавалкам польскай зямлі для экстэрытарыяльнага дарожнага злучэння, якое мела б ісці ад Рэйха да Усходняй Прусіі. Гітлер патрабаваў гэтага ад Польшчы, прапаноўваючы мір узамен. Адказ тагачаснага міністра замежных спраў Бека быў неадкладным і бясспрэчным. «Мы нават ГУЗІКА не аддамо!» — крыкнуў ён. А што з дзіркай? Пра яе, як звычайна, гаворкі не было.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Ахоўнікі памяці Каліноўскага

На мінулым тыдні сваімі вачыма, а трапней будзе сказаць сваімі сэрцамі і душамі, на гэтай старонцы пра пахаванне Кастуся Каліноўскага 22 лістапада ў Вільні выказваліся Уладзімір Хільмановіч і Віктар Сазонаў. Гэты апошні асабіста — эмацыянальнымі словамі — папоўніў аўтарскі цыкл фельетонаў пад знамянальным загалоўкам «Дэпутаты Каліноўскага». Менавіта нашы гродзенскія сябры і супрацоўнікі рэдакцыі Уладзімір Хільмановіч, Віктар Сазонаў, святой памяці Дзіма Кісель і свіслацкія актывісты пакойны Віктар Дзесяцік і Юры Глебік і іншыя ўжо чвэрць стагоддзя ў Свіслачы і Якушоўцы ахоўваюць памяць Кастуся і Віктара Каліноўскіх — беларусаў, якія захацелі кінуць выклік тагачаснай рускай імперыі.

Згаданыя людзі разам са сваімі паплечнікамі ўзялі на сябе цяжар выбудоўвання незалежнай, нацыянальнай і дзяржаўнай беларускай памяці. А з чым, як не з усім, што беларуская па дзяржаўных характарах, змагаюцца прамаскоўскія сілы ва ўладных структурах Рэспублікі Беларусь? Бо дзе ж сэнс і логіка караць патрыётаў, якія сваімі намаганнямі пацвярджаюць суверэнітэт Беларусі. Як гэта загучыць не парадаксальна, але, на маю думку, з віленскай маніфестацыі сілы беларускага духу па чыста палітычна-асабістых інтарэсах задаволены напэўна... Аляксандр Лукашэнка. Менавіта віленская, масавая беларуская прысутнасць для Аляксандра Рыгоравіча ёсць страшылкай і козырам у размове з расійскім кіраўніцтвам наконт сваёй асобы як вечнага кіраўніка краіны. Бо ж калі не ён, то да ўлады могуць дайсці тыя, якіх сваім маскоўскім гаспадарам пакажа на непадцэнзурных стужках. Тых, якіх не маглі ў беларускім тэлебачанні пабачыць самі беларусы. Між Богам і праўдай, то і польскае публічнае тэлебачанне мае не менш на сваім сумленні са сваім каментарыем і вобразам з віленскіх урачыстасцей.

Віленскім пахаваннем выбудоўваюцца грамадзянскія гарантыі для беларускай незалежнасці, на якіх свае інтарэсы скарыстоўвае таксама і цяперашняя ўлада. Бо ж гэта менавіта непрыўладныя беларусы патрапілі сваімі аргументамі пераканаць літоўскі ўрад надаць беларускае аблічча ў мове і на магільным слове як трэцяму, паўнапраўнаму аб'екту святкаванняў. Таму выступленне ў Вільні віцэ-прэм'ера Беларусі Ігара Петрашэнкі, між іншым, са словамі, што справа Кастуся Каліноўскага была і дзяржаватворчай, было пэўным прызнаннем пункту гледжання незалежнай грамадскасці. Тады, ідучы за ягонымі словамі, вертыкальныя структуры і суды Гродзенскай вобласці можа павінны перастаць аказваць шматгадовы адміністрацыйны, судовы і псіхічны ціск на арганізатараў святкаванняў у Свіслачы і Якушоўцы? А мо іх зараз пакараць за антыдзяржаўныя дзеянні? Так з ходу згадваю, што за гэтыя падзеі Віктар Сазонаў быў пяць разоў аштрафаваны судом, Уладзімір Хільмановіч і Юры Глебік — па чатыры разы. Былі і іншыя ахвяры пакаранняў. Таму арганізатары павінны дзеля памяці стварыць кнігу пераследу гэтых падзей.

Паўстанне 1863-1864 гадоў прайграла, але памятайма, што адмена ў той час прыгоннага статусу сялян царскімі ўладамі, то не што іншае як боязь перад шырэйшай падтрымкай паўстанцкіх лозунгаў сялянамі. Лёсавызначальная, вырашана па думцы сялян справа прынесла і такія падзеі, калі сяляне сваімі рукамі лавілі паўстанцаў і перадавалі іх царскім салдатам. Дастаткова пачытаць у польскай літаратуры Стэфана Жэромскага, каб адчуць і зразумець якая была прорва і нянавісць паміж тагачаснымі польскімі прыгоннымі сялянамі і іх панамі жыцця і зямлі.

У выпадку яшчэ шматвяковага, цывілізацыйнага каталіцка-праваслаўнага канфлікту на нашым польска-беларускім памежжы ў прыдатак да сацыяльнай варажнечы паўстанне прыносіла жахлівыя гісторыі менавіта ў нашым кутку свету. Ахвярамі былі не толькі людзі сялянскага ці шляхецкага саслоўяў, але праваслаўныя і каталіцкія святары. Памяць менавіта пра забітых паўстанцамі праваслаўных бацюшкаў на Падляшшы безумоўна прадвызначае і зараз наш тутэйшы агляд і ацэнку тых гістарычных падзей, якія мелі месца ў 1863-1864 гадах. Дарэчы, пры кожнай грамадзянскай ці паўстанцкай вайне ў любой кропцы свету без падобных гісторый, на жаль, не абыйсціся.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Падручнікі... там устарэлыя і непрывабныя тэмы для вучняў

— **Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Калі я закончыла беларускую філалогію з педагагічнай падрыхтоўкай, з'явілася магчымасць паспрабаваць працаваць настаўнікам у пачатковых класах. З цягам часу я вярнулася ў школу працаваць настаўніцай беларускай мовы.

— **Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Безумоўна, дзве асобы: Іаанна Сахарук, якая навучыла мяне беларускай мове і Аліна Ваўранюк, з якой я пазнаёмілася, калі працавала ўжо настаўніцай.

— **Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Так, супрацоўнічаю з Эміліяй Грыка. Маю таксама кантакт з іншымі настаўнікамі на трэнінгах, якія арганізуе Іаланта Грыгарук.

— **Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Я думаю, што ўсе арганізацыі і ўстановы, якія распаўсюджваюць беларускую культуру і мову, вельмі важныя і неабходныя. Сваёй дзейнасцю яны ствараюць нешта ўнікальнае і каштоўнае.

— **Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Я працую ў пачатковай школе толькі год і ў цяперашні час не займаюся праектамі з вучнямі — я збіраю інфармацыі і ідэі, каб мець магчымасць рабіць тое ў будучыні.

— **Ваш любімы беларускі конкурс?**

— У мяне няма любімага конкурсу.

— **Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Так, бацькі маіх вучняў гатовыя супрацоўнічаць.

— **Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Гэта павінна быць козырам! Але... законы пабудаваны такім чынам, што дзеці могуць запісвацца і выпісвацца, калі ім зручна. Для мяне гэта дзіўна. У дзяцей ёсць розныя этапы захаплення тым, чым яны займаюцца, і непрыемна, калі вучань у сярэдзіне семестра бунтуецца і не хоча прыходзіць на заняткі толькі таму, што хоча вярнуцца дадому з сябрам на гадзіну раней.

— **Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Тры гадзіны гэта недастаткова для рэалізацыі праграмы, падрыхтоўкі вучняў да выступленняў, арганізацыі паездкі.



**Анна ГРЭСЬ** нарадзілася і вырасла ў Гарадку. Закончыла Беларускую філалогію ў Беластоцкім універсітэце. Працавала год у Пачатковай школе ў Гарадку, а потым сем гадоў у Беластоцкім універсітэце, дзе выкладала беларускую мову, лабараторыю і гістарычную граматыку беларускай мовы. У навуковай працы займалася лексікаграфічнымі працамі перыяду Вялікага Княства Літоўскага. Выдала дапаможнік па беларускай мове для студэнтаў рускай філалогіі. З 2018 года працуе настаўніцай беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Гарадку. Сакратар Фонду „Villa Sokrates" у Крынках, каардынатар штогадовых „Трыялогаў" і мастацкіх выстаў у Галерэі „Крынкі". Займаецца таксама выдавецкай працай Фонду. У вольным часе вышывае, чытае кнігі і складае пазлы. Любіць жывёл — у яе дома два сабакі і папугай. Жыве з дачкой і мужам у Беластоку.

— **Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Не, сярод маіх вучняў няма яшчэ лаўрэатаў.

— **Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Падручнікі, на мой погляд, устарэлыя. У іх састарэлыя і непрывабныя тэмы для вучняў (хаця ў іх шмат карысных тэкстаў і практыкаванняў). А падручнікі для малодшых класаў мне падыходзяць, хаця дапаўняю іх сваімі матэрыяламі — кожная група мае свае патрэбы ў чымсьці іншым, таму аснова „Сцэнарыі" ці „Літарынка", але заўсёды ў мяне ёсць нешта дадатковае, што адпавядае захапленням школьнікаў.

— **Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— „Сцэнарыі", „Літарынка". Але я часта выкарыстоўваю інтэрнэт-рэсурсы: nastaunik.info, by.lang-study.com, knihi.com, movananova.by

— **Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Сакрат Яновіч.

— **Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Нядаўна я скончыла чытаць „Поўню" Міхася Андрасюка.

— **Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Так, мы чытаем з дзецьмі «Зорку».

— **Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— „Басовішча" і „Трыялогі".

— **Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Я стараюся ўвесь час гаварыць з вучнямі на беларускай мове.

— **Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Праца настаўніка — гэта і добрыя ўспаміны, і сумныя. Хаця сумныя хутка забываюцца.

— **Што Вас палохае, наклікае стому?**

— У працы настаўніка — дакументацыя і непатрэбныя абавязкі, а ў асабістым жыцці — бессардэчнасць і абыякавасць людзей.

— **Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Не, яшчэ не — я працую год, але таленавітых вучняў многа.

— **Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Не.

— **Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Мая сям'я, сябры, а таксама невялікія поспехі.

— **Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Віншавальная паштоўка з нагоды Дня настаўніка, якую я атрымала ад вучаніцы.

— **Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У класе няма нацыянальнай сімволікі, але шмат узораў беларускага арнаменту, якія вышылі мае вучні.

— **Як бачыце будучыню беларусаў?**

— У сённяшняй рэальнасці — сумна.

Апытальнік правяла **Ганна КАНДРАЦЮК**

# Каму паскардзішся?

Паслугамі Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі карыстаюся з кастрычніка мінулага года. Я вымушаны быў падаць заяву ў ГАСД з просьбай прызначыць мне сацыяльнага апекуна, які будзе аказваць паслугі ў месцы пражывання. Апякун абавязаны падапечнаму данесці апал у дом, папрыбіраць у хаце, памагчы зварыць страву ды падаць падапечнаму на стол, рабіць закупкі ў крамах, забяспечваць лякарствамі паводле запісаных рэцэптаў ды выконваць іншыя падрабязнасці ў гаспадарскіх справах. Першапачаткова мне прызначылі адну гадзіну ў тыдні. Практычна паслуга была недастатковай, паколькі не хапала часу на выкананне запісаных задач цягам адной гадзіны. Варта пры тым адзначыць, што ў асяродку на штаце працавала толькі адна жанчына, якая абавязана была за восем гадзін абслужыць дзевяць падапечных з абмежаваннямі. Цяжкая была гэта задача для выканання, паколькі на праезд да падапечнага вызначалася па графіку адно пятнаццаць мінут. А тэрыторыя абслугоўвання даволі разлеглая. Выручкай апякунцы аказаўся прыватны аўтамабіль, якім карысталася на рабоце. Але ў зімовы час і гэтая дабрадзейнасць аказалася мала прыдатнай. Іншым недахопам у працы апекуна Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі ў Чаромсе быў брак намесніцтва ў час водпуску ці хваробы апекуна. У такіх выпадках васьмідзесяці- дзевяностагадовыя сеніёры з абмежаваннямі ды няздольныя да самастойнага існавання былі здадзены на волю лёсу. Ці так быць павінна? Я пачаў хадайнічаць у гміне за тое, каб аформіць на штат апекуна другую асобу. Справа доўжылася больш за паўгода. У ліпені мінулага года апякунка захварэла. Праз два тыдні часова апякунку заступалі сацыяльныя працаўнікі ГАСД. Рабілі закупкі падапечным, афармлялі рэцэпты ў аптэках. Праз нейкі час Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі пасылаў на заступства да сеніёраў з абмежаваннямі школьных апекуноў, якія займаліся прывозам дзетак у школу ды са школы дамоў. Аднак школьныя апекуны карысталіся абмежаваным часам. Я станоўча пачаў дапамінацца ў кіраўніка ГАСД, каб паслугі для асоб няздольных да самастойнага існавання былі выконваны згодна прызначанага адміністрацыйнага рашэння. Такім чынам ад 22 ліпеня гэтага года была аформлена на працу другая апякунка. Яна самастойна, як раней яе сяброўка, абслугоўвае зараз восем падапечных. Аднак новааформленая на працу апякунка была прынята на чатыры месяцы. 22 лістапада закончыла працу, паколькі не прадоўжылі ёй дамовы. Гаворка ідзе, што другая асоба аформіцца нанава на працу ў снежні. Два тыдні затым падапечныя вымушаны былі самі спраўляцца са сваімі шматлікімі жыццёвымі праблемамі. І каму паскардзішся чалавеча, калі ў дэмакратычнай дзяржаве права адно махлярства, скандалы ды ашуканства. А бедным сеніёрам з абмежаваннямі, няздольным да самастойнага існавання адбіраюць законна прызначаны сацыяльны фонд, дзеля палатання дзіркі трынаццатай пенсіі для пенсіянераў. А чаромхаўскі самаўрад прыкладам упраўляючай „Добрай змены" пакідае бездапаможных падапечных на волю лёсу, дзеля эканомлення сябе прэміяльнага.

**Уладзімір СІДАРУК**







# «Ручаёк»
## — 10 гадоў з беларускай песняй

Ад дзесяці гадоў у Белавежы дзейнічае беларускі калектыў «Ручаёк», створаны Маркам Зубрыцкім. Калектыў дзейнічае ў карысць беларускай песні, мовы і культуры ў Белавежскай гміне, у якой беларускія традыцыі сягаюць у мінулыя стагоддзі. У кіназале Белавежскага асяродка культуры 23 лістапада адбылося святкаванне круглага юбілею — 10-годдзя дзейнасці калектыву «Ручаёк», у якім прынялі ўдзел перш за ўсё жыхары Белавежскай гміны. З займальным канцэртам выступіў «Ручаёк» і захапіў сабраных цікавым рэпертуарам, заспяваўшы беларускія народныя песні і эстрадныя беларускія творы ў апрацоўцы мастацкага кіраўніка калектыву Марка Зубрыцкага. З'яўляецца ён зараз дырэктарам Белавежскага асяродка культуры і старшынёй Таварыства сяброў Белавежы, якія арганізавалі юбілейнае святкаванне.

— Нам важна падтрымліваць нашы традыцыі спявання па-беларуску і блізкую нам беларускую культуру, — сказалі члены «Ручайка».

— Мы дзейнічаем як беларускі калектыў і ў дзевяноста працэнтах наш рэпертуар складаюць беларускія песні. Мы спяваем многа твораў, якія выконваліся на нашай тэрыторыі, а я іх апрацоўваю для калектыву. Мы выступаем у час «Купалля», «Ператоча» і «Рознагалосся» ў Белавежы і на беларускіх фэстах. Прымаем удзел у фестывалі «Беларуская песня», у час якога самым важным з'яўляецца выступ у вялікай кампаніі. Калядкі прэзентуем у час агляду і цешымся, што можам выконваць песні, якія ў мінулым спявалі нашы продкі, — расказаў мастацкі кіраўнік «Ручайка» Марк Зубрыцкі.

— Нас яднае любоў да спявання, да беларускай песні і таму мы ахвотна выступаем з беларускім рэпертуарам. За дзесяць гадоў дзейнасці калектыву мы пасябравалі, зжыліся і ахвотна сустракаемся ў час рэпетыцый. Падчас выездаў спатыкаемся з членамі іншых калектываў, завязваем сяброўства, — заявілі спевакі калектыву «Ручаёк».

— Я жыў раней у Гайнаўцы, а мая сям'я родам з Нараўчанскай гміны. Вёў я музычныя імпрэзы ў гатэлі «Зуброўка», а калі ажаніўся з дзяўчынай з Белавежы, пераехаў сюды на пастаяннае жыхарства. Запрапанаваў войту Альберту Літвіновічу заснаванне беларускага калектыву ў Белавежы, які меў бы займацца ў Белавежскім асяродку культуры. Калі атрымаў згоду войта, нагаварыў спяваць на беларускай мове дзяўчат з матуральных класаў, Іаанну Шаўкала, Паўліну Шаўкала, Эвеліну Слёнчку і дзве Паўліны Бушко. Мы ў 2009 годзе выступілі ў час «Купалля» ў Белавежы і тады выявілі ахвоту спяваць нашы беларускія песні мамы гэтых дзяўчат і іншыя асобы. У кастрычніку 2009 года мы сталі займацца ўжо ў пашыраным складзе калектыву, які назвалі «Ручаёк», — сказаў кіраўнік «Ручайка» Марк Зубрыцкі, які разам з іншымі музыкантамі састаўляў акампанемент спевакам.

На працягу дзесяці гадоў дзейнасці склад белавежскага калектыву мяняўся, але каля паловы яго цяперашняга складу выступае ад самага пачатку. Паразмаўляў я з прадстаўніцамі дзвюх сем'яў, якія дзесяць гадоў назад саставілі аснову калектыву «Ручаёк». Спачатку ў калектыве выступалі сёстры Іаанна і Паўліна Шаўкала, а пазней далучылася да іх мама Анна Шаўкала. У калектыве спяваюць таксама дачка і маці — Анна і Іаанна Ляўчук.

— Нам хацелася спяваць, а адначасна залежала нам згуртавацца ў групе і нешта зрабіць у Белавежы. Рашылі, што будзем спяваць беларускія песні, якія дасталіся нам у спадчыну ад продкаў, — сказалі Паўліна і Іаанна Шаўкала, якія пазнаёміліся з беларускай мовай і культурай падчас вучобы ў Гайнаўскім белліцэі.

— Калі я пачала выступаць з дочкамі, гэта паўплывала на ўзмацненне сямейных суадносін, — заявіла Анна Шаўкала, маці Паўліны і Іаанны. Дабавіла, што яе маці, Люба Масайла, спявала ў «Падляшанках» з Гарадзіска і магчыма, што прывіла ўнучкам любоў да спявання і традыцый, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне.

Іаанна Ляўчук далучылася да дачкі Анны і сталі яны выступаць супольна.

— На прыкладзе калектыву «Ручаёк» можна сказаць, што ў Белавежы беларускія песні аб'ядналі два пакаленні, — сказала Анна Ляўчук, выпускніца Гайнаўскага белліцэя, якая выступае супольна з мамай.

— Я пачуў, як спяваў наш калектыў і мне так спадабаўся выступ, што я спытаў, ці магу спяваць у ім. З гэтага часу выступаю ў «Ручайку» сем гадоў і ў сэрцы засталося многа прыемных успамінаў. Беларуская песня і беларуская мова мне родныя і таму ахвотна прымаю ўдзел у дзейнасці «Ручайка», — заявіў Рыгор Байко, які жыве ў Гайнаўцы, але ахвотна прыязджае на сустрэчы калектыву ў Белавежу, дзе жывуць яго бацькі.

— Калі Марк заснаваў калектыў «Ручаёк», я рашыўся ў яго ўступіць, паколькі мне важна выступаць з нашым рэпертуарам, — заявіў бубнач Марк Вашковяк.

Марыян Руско, які ў «Ручайку» іграе на тамбурыне, таксама быў рады, што калектыў выконвае беларускія песні.

— Я люблю спяваць, а беларускія песні мне родныя, — заявіла Марыя Руско.

Мае суразмоўцы дабавілі, што ім важна выступаць са сваімі песнямі, якія спяваліся ў мінулым на Беласточчыне. Важна ім таксама прамоцыя беларускай культуры ў Белавежы і наваколлі. Цяпер Белавежскі асяродак культуры і Таварыства сяброў Белавежы рыхтуюць другі кампакт-дыск калектыву «Ручаёк». Дзякуючы атрыманым вонкавым сродкам выйдзе новая кружэлка з творамі белавежскага калектыву, была падрыхтавана фатаграфічная выстава аб дзейнасці калектыву і пашыты новыя касцюмы для спевакоў і музыкантаў «Ручайка».

— Запрасіў я да супрацоўніцтва Паўліну Скепка, спецыялістку па харавым спеве. Калі я ў час рэпетыцый заняты, каб састаўляць з капэлай акампанемент, Паўліна звяртае ўвагу на адпаведную эмісію голасу і дэталі, на якія трэба звяртаць увагу падчас харавога спеву. За сродкамі на дзейнасць нашага калектыву мы выступаем ад імя Таварыства сяброў Белавежы, якога дзейнасць мы аднавілі. Наша таварыства займаецца ў вялікай ступені дзейнасцю ў карысць беларускай песні, мовы і ў цэлым у карысць беларускай культуры, — паінфармаваў старшыня Таварыства сяброў Белавежы Марк Зубрыцкі.

У час святкавання юбілею «Ручайка» вельмі цёпла ўспрымаўся публікай займальны выступ беларускага калектыву «Сунічкі» з Пачатковай школы ў Белавежы, які добра вядомы белавежскай публіцы.

— Вучні захоплены выступамі калектыву «Ручаёк» і хочуць, каб частку песень з яго рэпертуару развучваць і спяваць. Я спадзяюся, што выпускнікі з нашых «Сунічак» будуць папаўняць склад «Ручайка», які прывівае любоў да беларускай песні і мовы, — сказала настаўніца беларускай мовы і заадно мастацкі кіраўнік «Сунічак» Анджаліна Масальская.

Святкаванне ўмела вяла дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах Марыёля Герман-Петручук, якая вітала запрошаных гасцей і заказвала выступы музычных калектываў. На святкаванне прыбылі старшыня Рады Белавежскай гміны Уладзімір Валкавыцкі, старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, радны Гайнаўскага павета, адказны ў Гміннай управе Белавежы за культурную дзейнасць Матэвуш Гутоўскі, дырэктар Школьна-дашкольнага комплексу ў Белавежы і павятовы радны Кшыштаф Пэтрук і мясцовыя самаўрадаўцы. У час юбілею Марк Зубрыцкі акампанаваў таксама гурту «Сунічкі» і беларускаму вакальнаму калектыву «Жаваранкі» з Махнатага, з якімі супрацоўнічае штодзень. З беларускім рэпертуарам цікава запрэзентавалася Юліта Кічкайла з Майстар-класаў па працатэрапіі ў Гайнаўцы, якая выступала раней у час беларускага мерапрыемства «Рознагалоссе», якое цыклічна ладзіцца ў Белавежы. Сваім выступам захапіў белавежскую публіку беларускі калектыў «Чыжавяне» з Чыжоў. Мастацкі кіраўнік «Чыжавян» Юры Ганевіч адзначыў рост мастацкага ўзроўню выступаў «Ручайка» і ангажаванасць Марка Зубрыцкага ў працу ў карысць беларускай культуры. Жанчыны з калектыву «Чыжавяне» сказалі, што паміж спевакамі калектываў з Чыжоў і Белавежы завязалася сяброўства, якое варта прадаўжаць. У канцы канцэрта супольна выступілі белавежскія калектывы «Ручаёк» і «Сунічкі». Пасля выступаў госці і прадстаўнікі калектываў павіншавалі юбіляраў і выказалі многа пажаданняў, падарылі сувеніры і кветкі. Публіцы быў падрыхтаваны салодкі пачастунак, які спажывалі за кавай і гарбатай у час канцэрта і пасля яго завяршэння.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# Ты ляці мая душа над Беларускім клубам



Ужо 26 раз агляд «Беларускі абрад на сцэне» — апошняе гадавое мерапрыемства Беларускага грамадска-культурнага таварыства (яго ў народзе завуць усё Беларускім клубам) збірае выканаўцаў і гледачоў з усёй Беласточчыны. Пакуль адбудзецца галоўнае мерапрыемства, праводзяцца павятовыя агляды, але таксама і гмінныя. Больш за чвэрць стагоддзя збірае ўжо пару пакаленняў і аўтараў, і пастаноўшчыкаў, і гледачоў. Аж лопае зала і ў Галоўным праўленні БГКТ па вуліцы Варшаўскай, 11, у Беластоку. Гледачы — суседзі, сваякі, знаёмыя выступоўцаў і ўсе аматары роднай песні і слова прыбываюць у асенні вечар на Варшаўскую заранёў, каб хоць прысесці на крэселцы, падглядзець прадстаўленні, а пасля і самому выступіць, паскакаць пару хвілін пры музыцы беларускіх гуртоў. Прыгадваецца кіпяткая атмасфера «Беларускага клуба», у кулуарах якога пазнаёмілася шмат беларускіх, перш за ўсё праваслаўных пар. Старэйшыя гледачы з радасцю бачаць як на вядомыя ўсходкі на сцэну ўзбіраюцца і малечы з садкоў, і старэйшыя мастакі спеву і тэатра, якія ўмеюць пасмяяцца са сваёй часам ужо недалужнасці і «недарэчнасці». А тут усё дарэчы, і якое свята для душы! А ўзнагародай сёння будзе не толькі радасць для душы слухачоў і гледачоў — усе ўдзельнікі атрымаюць цудоўную багатую кнігу мінскага выдавецтва «Чатыры чвэрці» з Мінска — «Жывая культура Беларусі», якую прывезла ў Беласток Ліліяна Анцух (падарунак Культурнага цэнтра Беларусі)... Пасля кожнай сустрэчы спяваюць таксама беларускія калектывы, як між іншым «Ас» (што і спявае «Ты ляці, мая душа»), таму ёсць нагода і патанцаваць, і самому гледачу ўхапіцца за мікрафон, або і без мікрафона заваражыць іншых слухачоў роднай і вядомай песняй.

— Мае дзяўчаткі заспявалі песні, якія «трэніруюць» дома, — расказвае Багдан Астапчук пра сваіх дачушак, якія выступаюць заўжды з інструментамі на сцэне і эстрадзе. — Яны спяваюць, як дыхаюць. І як дома, так і на сцэне, з радасцю і захапленнем. Гэта як абрад, і не абрад, гэта ўсё так жыццёва. Паказ таго, што яны робяць у хаце, у Грабаўцы пад Беластокам. Вера Масайла прывезла сваіх «Званочкаў» з Гайнаўскага дома культуры, якія зноўку выступілі з яе новай п'есай пра чары і каханне «Допыты на пяцёрку». Тут ужо толькі дзве ролі выконвае яе найлепшы акцёр Давід Ціханюк, цяпер ужо вучань Гайнаўскага белліцэя. Валянціна ідзе пад вечар даіць кароў. Па дарозе заходзіць да цёткі Параскі.

Валяніна (маці, удава): — Добры дзень, цётка Параска! Даражэнькая. Мо вы дапаможаце мне развязаць маю праблему?

Параска (старэйшая жанчына, суседка Валянціны): — Якая ў цябе праблема, у якой магу табе дапамагчы? Араць і сеяць я не ў сілах, а табе, прыгажуня, такая дапамога патрэбная!

Валянціна, дзякуючы за камплімент: — Добра вы, цётка, мяркуеце. Хачу, каб вы разлажылі калоду карт і ўбачылі маю будучыню — ці ёсць там месца для Сяргея са Спічкоў.

Параска: — Даўно я карт не клала, хацела зусім закінуць варажбу, ды і бацюшкі на гэта крыўляюцца — грэхам называюць. Ну, для цябе апошні раз спрабую... і так мела ісці ў нядзельку паспавядацца.

Валянціна: — Вельмі вам дзякую! Заплачу некалькі разоў за вашу споведзь, некалькі разоў за вашу споведзь і дам вам на свечку.

Параска: — Перастань! Нічога ад цябе не вазьму! Пакажы правую руку — у цябе доўгая і вельмі пакручаная дарога жыцця. Можа і знайшлося б на ёй месца для яшчэ аднаго мужыка. Сядай! Пералажы карты. Я бачу тут не аднаго, а двух мужчын старэйшага прыстойнага, пекнага беларуса і другога, зусім маладзенькага, пэўна, яго сына... Можа быць тваім зяцем... Толькі лёсу трэба часам дапамагчы...





Валянціна: — Ды як? Мая Клаўдзія аглядаецца за гарадскім хуліганам з доўгімі валасамі і папяроскай у зубах. Сын Сяргея, Валодзя, нядаўна з войска вярнуўся, а Клаўдзіі толькі пятнаццаць гадоў.

Параска: — Пятнаццаць з палавінай, а гэта вялікая розніца. Не пераживай. Усё іншае прыдумаем. Замоўлю табе вады і хлеба для Клаўдзіі і трэба будзе працягнуць праз хамут і драбіну. А Сяргею і яго сыну Валодзю няхай перадасць скаштаваць замоўленыя мною піражкі.

Валянціна: — Дзякую, цётка Параска, будзем прабаваць шчасцю дапамагчы. Перад захадам сонца да вас прыбягу, а цяпер іду падаіць кароў.

І што — удаецца, хаця сусед Сцяпан зачараваныя піражкі ўплёў сам, аж вушы трэсліся. Вельмі спадабалася п'еса «Званочкаў» і няўрымслівай Веры Масайла сабраным гледачам, якія не шкадавалі апладысментаў, як і іншым выканаўцам, якія рознымі абрадавымі «піражкамі» частавалі радасную публіку. Частавалі дажынкавым пірагом і «Малінкі» з Маліннік, што паказалі «Перапяліцу».

— От, такі наш «зэспул», што, вядома, рыхтуемся, пару разы так якось пэрокотымо, а калі трэба збіраемся і ладуемся ў аўтобус і едзем на выступленне, — кажа Вера Нічыпарук. — І ідэмо на сцэну! І то як з жыцця — як было. А на выступленні кожная сцэна ў нас па-інакшаму. На сёння сем прыехала, двух мужчын маемо — Пётр Нічыпарук — мой муж, і Генік Галушэўскі. Гэта новая ў нас жамчужынка! І мае кіраўнічую пасаду, сам ён у Гуртку вясковых гаспадынь, сам усё падкажа, памагае. Вельмі цешымся, што ён у нашым бабскім гуртку. Што ж, мы выкрышваемся, у нас ужо мала спевакоў. Вось Вольга Дмітрук, Клаўдзія Дмітрук... Нас тры засталося, дзяўчыны памагаюць, бо крыху запозна прыйшлі. Некаторыя нядаўна да нас прыйшлі, але вучацца. І так мы на сцэну ідзем, бы ў поле ішоўшы.

Нестарыя ўсё ж удзельнікі «Асенняга лісця» з Бельска-Падляшскага. Яны і паказалі абрад, і станцавалі, і расказалі пра абрад Масленіцы. «Красны дзеўкі прыскакалі», а тут і не толькі «дзеўкі». Тут рэй водзіць неўтаймаваная Тамара Русачык, дай ёй Бог здароўе. «Дзень ідзе, дзень становіцца даўжэйшы, а народ Масленіцу святкуе. Масленіца-подлізуха, ой, подлізуха, сыр і масла полізала. Масленка — з блінамі. Ой, будзе масленка. Ой, будзе коло пупа прасненька!» — гледачы смяюцца, актыўна слухаюць: «О, то то праўда!». Роскажэм, а віетэ послухайтэ! — прапануе са сцэны Тамара. — Масленіца, то ўсходнеславянскае свята... (...) Святковалі колі дэнь почынаўся доўжшы. Народ цешыўся, і ўсё перакладаў на свята ў гонар Сонца. Колі свято, то і подывіетэсь, стол які богаты. А найважнейшай стравай у час Масленіцы былі бліны. (...) А ў нядзельку ўся сям'я ела ўдоваль яечні...»

Калектывы маюць розныя строі. Напрыклад, «Рэчанька» з Козлікаў (абрад «Вячоркі») сёння выступіла ў харошым адзенні ў макі.

— Мы маем, апрача народных строяў з ручнікамі, блісkучыя блузкі і чорныя спадніцы, — кажа Ала Каменская. — Цяпер купілі тканіну ў макі, украінскую, кожная сабе. А гэты спадніцы і камізэлькі — з праекта, гэта Заблудаўская гміна, з праекта Маршалкоўскай управы, нам зафундавала. У нас спявачак больш, маем дзве новыя. Адна — была дырэктаркай у Рыбалах, сама яна з Целушок, а другая — са Стральцоў.

— Публіка адразу заўважыла: новыя дзяўчаты ў «Рэчаньцы»! Вельмі спадабаліся пастаноўкі наймалодшых — калектыву з Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку, які падрыхтаваў Кірыл Лепай, дзе выступілі выдатна па-мастацку дзеткі і іх бацькі (абрад «Вяселле») і калектыў з Непублічнай пачатковай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку — «Багаты вечар у Мацвеевых», які вядзе цяпер Ніна Абрамюк, якой імя расславілі пастаноўкі школьнікаў з Нарвы. Тут таксама «шматпакаленная» пастаноўка — сярод вучняў «КіМа» унучак Ніны, Мікола, вельмі таленавіты і выдатны вучань. Відаць, з якой радасцю прымаюць удзел у пастаноўках выдатных педагогаў — аніматараў культуры маладыя ўдзельнікі беларускіх імпрэз, і колькі радасці яны прыносяць і вядучым, і гледачам, і арганізатарам, даючы надзею на тое, што не прападзе, не зачахне наша культура.

Мерапрыемства адбывалася ў Беластоку 8 і 22 лістапада. Рэалізавана яно дзякуючы датацыі Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы, пры падтрымцы Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі



Юлія і лістападаўскі трафей!

# Міфы
## старажытных беларусаў

Адным з чатырох элементаў будовы свету і жыцця, апрача вады, зямлі, агню, з'яўляецца ПАВЕТРА. Першастыхію, у адрозненні ад трох ранейшых, беларусы прыкмячалі толькі ў крайніх, экстрэмальных сітуацыях. Таму міфалагізавалі станы паветра, якія прыводзілі да смерчаў, ураганаў, дзікіх вятроў ці снежных завей. На Палессі, напрыклад, ведалі 12 відаў вятроў і кожнаму з іх было прыпісанае нейкае боства. Самым капрызлівым і лютым лічыўся Муры, які прыносіў пошасці і эпідэміі.

На Падляшшы амаль у кожнай вёсцы стаіць падзячны крыж, з падзякай за выратаванне ад эпідэміі (ад мору). У народзе верылі, што хваробы — накліканыя чарамі або праклёнамі. Пакаранне прыходзіла на ўсю грамаду, а шкоду мог атрымаць зусім выпадковы, у ні чым невінаваты чалавек.

Каб спыніць хвалю эпідэміі, людзі выконвалі рытуалы цэлай грамадой (вёскай). Адна з найбольш распаўсюджаных практык — гэта начное вытканне ручніка. Карацей кажучы, жанчыны за адну ноч былі абавязаны выткаць палатняны ручнік такой даўжыні, каб акружыць ім усю тэрыторыю селішча. У абрадзе ўдзельнічалі ўсе члены грамады і нават жывёла. Усе людзі, старыя і малыя ды жывёла шчыра пасцілі. Калі жанчыны ткалі ручнік, мужчыны будавалі дубовы крыж. На світанні, калі ручнік быў гатовы, усе прыходзілі ўстанавіць крыж. Яны закопвалі вытканы ручнік, маліліся і ставілі новазбудаваны крыж.

Як расказалі ўдзельнікам XI Сустрэч «Зоркі» старажылы з Пілікаў, такі абрад выгнаў эпідэмію з іх вёскі і выратаваў людзей. А крыж, хоць даўно ўжо забыліся пра эпідэміі, кожны год прыбіраюць і асвячаюць у час вясновых абыходаў.

Паветра ў хаце і хлявах ачышчалі з дапамогай агню і асвечаных рэчаў: абкурвалі зёлкамі, царкоўным ладанам, васковымі грамнічнымі свечкамі, крапілі святой вадой.

Нагрэтае ў печы паветра і дыханне жывых істот і чалавека называлі «духам» і звязвалі яго з паняццем «душа». Сёння таксама пра шчырых і светлых людзей кажам, што гэта добры дух кампаніі.

**(гак)**

**Міра ЛУКША,** 1 снежня 2019 г.

## Святы Мікалай у нас

Святы Мікалай
– зусім як Дзед Мароз,
ружовыя шчокі, чырвоненькі нос.
З Лапланды прымчаўся на санях да нас,
на Рынак Касцюшкі падарункаў навёз.
Феерверкі іскрацца, званочкі звіняць.
Прэзідэнт нават спяшае руку падаць.
Дзеткам ад радасці вочы гараць.
А алені пайшлі пад палац спачываць.
– Хто паслухмяны з вас быў?
– пытае святы. –
Таму падарунак. Гэта ён, ці мо ты?
– Усе мы сумленна ўвесь год правялі,
дапамагалі, вучыліся, не падвялі.
Спытайце, Мікола, у нашых бацькоў,
у суседзяў, настаўнікаў, бабуль і дзядоў.
На Рынак Касцюшкі прыходзім не раз,
у «Актаве культур» і канцэртах пяём.
Ёлачку ладзім. Запрашаем да нас
нават летам, у Беласток, у вясёлы наш дом.
Мы пагуляем на Плянтах ізноў,
а алені ў Звярынцы знойдуць сяброў.
Толькі летам вам прыйдзецца
зняць кажушок.
Падпярэжа рубашку вам паясок,
у беларускія ўзоры –
чырвоныя зоры.
І ў Лапландыю вернецца
шчаслівы дзядок,
вялікі святы ўсіх і цудадзей,
Святы Мікалай, дзед-барадзей.

## УВАГА КОНКУРС! № 49-19

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 22 снежня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

**Не мае рук, але зрывае з дрэў лісце. Не мае вуснаў, а вые і свішча. Хто гэта такі?**

**В....**

**Адказ на загадку № 45: Колы — (Чатыры браты бягуць — адзін другога даганяе, але ніяк не зловіць, а калі дагнаў бы — дык шыю адзін другому зламаў бы!)**

**Узнагароды — наклейкі — выйгралі Міша Драневіч, Мікола Лаўрашук, Магда Катэльчук, Анна Салавянюк, Коля Пракапюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Томак Ваўранюк, Марта Петручук, Клаўдзія Ніканчук з Нарвы. Віншуем!**




Аляксандра АЛЕКСЯЮК
Тапаляны, ПШ у Міхалове

# Кот

Быў сабе кот,
Які жадаў прыгод.
Штодзень проста чакаў,
Самых мышэй спатыкаў.
Аднаго дня ён прапаў,
Дзе ён?
Ніхто не знаў.

# Адкуль прозвішча «Коцік», а мянушка «Вецер»

## (беларуская народная легенда)

Нас называюць Коцікамі, а па-вулічнаму — «Ветравы».

Бацька майго дзеда быў чалавек ціхі. Бывала, зойдзе летам у клуню і не выходзіць адтуль днямі. А яго шукаюць і кажуць:

— Чаго ты хаваешся, як кот у каноплі?

Ну, сталі празываць «кот» і «кот». А што быў невялікага росту, так і астаўся «Коцікам». Адтуль і прозвішча пайшло.

Тады быў пан, ды такі строгі, што ўсе яго загады на ляту трэба было выпаўняць. Чуць скажа — трэба мігам збегаць, штось прынесці ці сказаць. Ён моцна любіў майго дзеда. Як скажа яму, бяжы і прынясі — то за мінуту і там. Тады кажа пан:

— Ты хуткі як вецер!

Ну і пачалі празываць наш род «Ветрамі».

(Паводле легенды запісанай Е. С. Кавалёвым і І. І. Заікінай у вёсцы Гусевіца на Гомельшчыне ў 1950 годзе — Легенды і паданні.) **гак**

Юстына КОРКУЗ
Міхалова

# Брацік

Мой маленькі брацік
штодзень мне перашкаджае:
— Што малюеш?
— Пачакай, зараз пакажу.
— Ну, чаго чакаць, пакажы!
— Яшчэ хвіліна.
А калі пакажу,
дык пасля не сяду.
— Якое прыгожае!
— кажа брацік.
— Ты сапраўдная артыстка!

# Польска-беларуская крыжаванка № 49-19




Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 45-2019:**

Сказ, лісток, ар, кошт, Пскоў, дакор, марш, На, Герта, герб, бо, фін, пах. Ляснік, мір, ген, памер, но, скарб, корт, но, каршак, кроў, неба, затока, ох.

Узнагароды, бракатны клей, выйгралі **Мая Лучай, Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага, **Юля Клімчук, Адрыян Максымюк, Міша Драневіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Юля Дарпенская, Вікторыя Якімюк, Аліўка Порац** з Нарвы, **Клаўдзія Галубоўская, Матэвуш Бядрыцкі** з Нараўкі. Віншуем!

Частка 7

# Генетычны алфавіт



— У цябе яшчэ малако на вуснах не абсохла, каб указваць мне, Джордж. Ты на гаршчку сядзеў і хадзіў пешшу пад стол, як я ўжо мяняў палітычныя рэжымы на планеце з горшага на горшы і падстаўляў свой зад пад кулі. І таму ў маёй задніцы намнога больш дзірак, чым зрабіла прырода. І нашмат больш парэзаў на маім целе, чым звілін у тваіх мазгах. Ты хоць ведаеш, што такое разведчык? Гэта не адна, і не дзве, і нават не тры складаныя шахматныя камбінацыі. У разведцы ты ніколі не можаш быць упэўнены, на якую краіну працуеш, — ляпнуў ён хоць што, абы сказаць, але ў галаве ўжо абдумваў план помсты.

— Як гэта?! — адгукнуўся палітык, які зразумеў, што нарабіў сабе бяды, як індзейцы з віскі, але мусіў адбівацца і нейк рэагаваць на сказанае.

— А вось так. Прыкладам, мяне ў разведку ўзяў Сэм. А хто ведае, кім ён быў завербаваны? Ніхто! Бо пра Сэма ніхто нічога ніколі не змог даведацца. Вось і атрымліваецца, што я, думаючы, што працую на адну разведку, магу насамрэч працаваць зусім на другую.

— Вось гэта паварот, — з захапленнем вымавіў работнік Дзяржэпартамента. — На такім павароце не адзін дыліжанс перакуліўся хіба што.

— Вось таму наша праца складаная, а не таму, што ты тут нёс. Менавіта таму многія разведчыкі працуюць на некалькі краін адразу, каб не памыліцца. Бо так хоць адна будзе тая, якой ты патрыёт. А ты тут мне пра Мантану нагадаў. У вас там, у Дзяржэпартаменце, не лепшая сітуацыя. І я не ведаю, хто сядзіць насупраць мяне зараз. І ты сам да канца не ведаеш, на каго працуеш! Таму я і правяраю, якой цвёрдасці твае шарыкі ў портках, каб, калі іх буду адрываць, яны не намулялі мне далоні.

Гладкі твар Джорджа крыху перакасіла і зморшчыла, як лімон пасля ўжывання. Ён зразумеў, што перагнуў палку да небяспечнага, і вырашыў здаць назад, як разумны мустанг перад крутым каньёнам.

— Я хіба няўдала выславіўся. А ўсяго толькі хацеў сказаць, што за нас нашу працу ніхто не зробіць, Джэк. Мы ж прыяцелі, Стары. А ведаеш, я знаю адзін новы смех. Думаю, ён падыме табе настрой, — паспрабаваў зняць напругу Джордж. — Пасля саміту блізкаўсходніх краін некаторыя султаны — аматары памяняцца жонкамі на ноч — памяняліся гарэмамі. Выдатна, праўда?

— Выдатна. Толькі гэта ўжо састарэла.

— Тады даруй мне і давай па справе.

Сонца заставалася на месцы, але здавалася ўжо больш не такім завіслым. Суразмоўцы дасталі насоўкі і выцерлі пот з твараў. Джэк выцер таксама і з рук. Падумаў, што на гэты раз ён прыме прабачэнні няспелага юнака. Але гэта апошні раз, калі ён так зробіць.

Напруга крыху спала. Спёка не.

— Сапраўды, давай па справе, — загаманіў ён па-дзелавому. — У нас усё падрыхтавана. Мы знайшлі закаханую пару ў адной вёсцы ў ваколіцах Мінска. Закаханых у Беларусі багата, але гэтая пара адпавядае ўсім нашым жаданням. Хлопец — агонь і бікфордавы шнур, дзеўка — дынаміт. Глядзіш, так бухне, што ўсю вёску знясе. Назвы вёскі не скажу нават табе, Джордж. Гэта звышсакрэтна. Там усё ідзе па плане, акрамя аднаго. Трэба знайсці мясцовага лекара і завербаваць яго. Яго задачай будзе падмена семя беларускага хлопца на семя нашага разведчыка. Як гэтая закаханая парачка зоймецца сексам першы раз, дзяўчыну трэба будзе даставіць у шпіталь і падмяніць семя. І тады, праз дзевяць месяцаў, па загадзе твайго Дзяржаўнага дэпартамента Злучаных Штатаў Амерыкі ў Савецкім Саюзе народзіцца наш амерыканскі разведчык.

Твар разведчыка так свяціўся гонарам за настолькі дасканала прадуманую аперацыю, што здавалася, быццам і сонца свеціць не так ужо і ярка. Прынамсі, у офісе дык дакладна сапраўднае свята збольшага зыходзіла з твару Джэка. Яго плечы расправіліся, спіна выпрасталася, нібыта ён сеў на металічную арматуру, вусны скрывіліся ў саркастычнай усмешцы, якая не магла азначаць нічога іншага, акрамя ўсёабдымнага пачуцця сваёй перавагі над інтэлектам іншых. Джордж пастараўся разабрацца ў дэталях:

— Чаму не скарыстацца паслугамі ўжо завербаванага раней лекара?

— Нельга. Саветы таксама не дурныя. Не дарма ядуць свой камуністычны хлеб з мякінай. Можа, яго раскрылі ўжо даўно, таго раней завербаванага лекара, і сочаць за ім, як раўнівы муж за гуллівай жонкай. Трэба абсалютна новы чалавек.

— Ёсць хто на прыкмеце?

— Так. У мясцовай паліклініцы працуе адзін лекар-алкаголік. За гарэлку зробіць усё што трэба. У дадатак яго нядаўна саветы не пусцілі ў Ізраіль, і гэта можна выкарыстаць пры вярбоўцы. Кажуць, у маладосці ён быў вельмі амбіцыйны, як помнік Юлію Цэзару ў Капітоліі. Толькі трэба вербаваць асцярожна, як мустанга аб'язджаць, каб савецкая контрразведка нічога не западозрыла. А пакуль што мусім зрабіць усё, каб да гэтага часу ў нашых закаханых не было сексу.

— Чаму? Хай сабе займаюцца сексам! Нам што, шкада? Мы ж за свабоду!

— А таму што яшчэ няма каму падмяніць семя, дубіна!

— Ну, так. А як там справы з гэтым сексам на дадзены момант?

Сонца ўжо перасякло сваю найвышэйшую нябесную кропку над Вашынгтонам і больш не глядзела ў акно сакрэтнага офіса наўпрост, расплаўляючы сваім вогненным позіркам лёгкія жалюзі. Вось яно-то дакладна магло распавесці і пра секс у СССР, і пра сексуальныя ўцехі ў ЗША, і не толькі ў гэтых краінах. Нагледзелася яно на гэтыя справы па ўсім свеце, і нельга сказаць, што заўсёды яму падабалася тое, на што прыходзілася глядзець. Але ж сонца мусіць кідаць сваё цяпло, святло і ласку на ўсіх. Ох і не простая гэта справа — быць Сонцам!

— Няпроста там з сексам у нашай парачкі, — адказаў Джэк, злёгку прыадкрыўшы жалюзі. — Калі не сказаць больш чым слова няпроста. Нягледзячы на ўсе запэўніванні іх камуністычнай партыі, што сексу ў СССР няма ў прынцыпе і быць не можа, наш хлопец рвецца, як звар'яцелы дзік з Белавежскай пушчы. Лес у іх такі ёсць. Старадаўні. Белавежская пушча называецца. І вежа ёсць, Белая. Яе Белай назвалі, бо яна ў Белавежскай пушчы стаіць, хіба што. Ну, ці наадварот. Гэта не важна. Важна, што ў хлопца ажно вочы вылазяць на лоб, як каханую пабачыць. Мне яго нават шкада ад усяго сэрца. Хоча заламаць яе пры кожнай сустрэчы. Добра, што яна пакуль што не пагаджаецца. Нам добра. Яму-то не. Яму-то што за дабро з гэтага?! Яна недатыку з сябе корчыць. А мо і ёсць такая дурная? Хто яе ведае? Толькі доўга яна не пратрымаецца без нашай дапамогі. Ён настроены рашуча і ідзе як бык на чырвоную ганучу.

— А хочаш на гэтую тэму анекдот? — засмяяўся Джордж, успомніўшы нешта вясёлае.

— Давай.

— Трэба ў Савецкі Саюз прывезці для паказу іспанскую карыду. І тады іспанскія быкі пераб'юць усіх камуністаў. Бо быкі нападаюць на чырвонае. А камуністы не тарэадоры. Не выкруцяцца.

Разведчык засмяяўся. Шчыра так, ад усяго сэрца, ажно жалюзі засмяяліся сонечнымі блікамі. Гэты анекдот яму спадабаўся яшчэ больш, чым той пра султанаў, што на ноч памяняліся гарэмамі. Асабліва спадабаўся аптымізм анекдота, што камуністаў усё ж можна перамагчы, чаго так і не могуць уцяміць у Белым доме. Хоць анекдоты такія аптымістычныя ведаюць.

— Ну што ж, пакінем быкоў камуністам, а камуністаў быкам, а мы вернемся да нашай парачкі. Гэты хлопец ідзе на дзяўчыну, як бізон у Елаўстонскім парку. Гэта наш такі аналаг іх Белавежскай пушчы. Дзень-другі — і заламае яе як піць даць. Прымаўка ў іх такая ёсць, у Беларусі — як піць даць. Ды і дзеўка ўжо як порах. Адна запалка — і пыхне. Раней змагалася толькі з ім, каб не было сексу. А зараз ужо і з ім, і з сабой змагаецца. А з дваімі ёй не даць рады.

— Не магу ўлавіць сэнсу гэтай прымаўкі — як піць даць.

— Я таксама. Але гэта не мае значэння. Важна, каб раней часу ў іх не было сексу. Для гэта мы падрыхтавалі адмысловага агента Малютку Чарлі.

Прадстаўнік Дзяржэпартамента ажно падскочыў на крэсле з разяўленым напоўніцу ротам, як пачуў імя шпіёна. Толькі ногі заставаліся на стале і тым самым сведчылі, што нечаму сапраўды амерыканскаму ад гаспадара гэтага офіса яму сёння ўсё ж удалося навучыцца.

— Малютку Чарлі? Ён жа, калі добра прыгледзецца, то відаць, што злёгку чарнаскуры! — здзівілена запярэчыў Джордж.

— Не думаў, што ты расіст, Джордж. І гэта зараз, калі хутка мы апынемся ў смяротных абдымках паліткарэктнасці, — усміхнуўся Джэк.

— Пры чым тут расізм, Джэк? У Беларусі жывуць адны белыя! Уяўляеш?! Я перад нашай сустрэчай вывучаў гэтае пытанне. Амаль дзевяць мільёнаў жыхароў, і ўсе белыя. Проста не верыцца. Рай для расістаў. Нейкае вар'яцтва, але гэта так. Адны белыя. Твайго Чарлі там адразу расшыфруюць.

— Ты што, думаеш, я не ведаю, як выглядаюць беларусы?! Ды я сам, можа, напалову беларус. А можа, і ты напалову беларус. Ты што, не ведаеш, што мы, амерыканцы, нацыя эмігрантаў? І хто ведае, з якімі там эмігрантамі маглі саграшыць нашы бабкі ад радасці, як першы раз убачылі статую Свабоды. Ды і не ўсе беларусы белыя. Тыя, што шмат п'юць гарэлкі, можа, яшчэ чарнейшыя за афрыканцаў. А гарэлка ведаеш якая ў іх моцная і смачная. Хатняга вырабу. Адзін раз пакаштуеш і ўжо шкадуеш, што нарадзіўся не ў Беларусі. Мне прывозілі нашы агенты. Я яшчэ закажу. І яшчэ ты не ведаеш Малютку Чарлі. Гэта майстар пераўвасаблення. Яго ніхто не адрозніваў ад карэннага жыхара, куды б мы яго ні закідвалі. Аднойчы да савецкіх чукчаў закінулі. І яны не адрознілі. Толькі смяяліся з яго чамусьці. І ў Беларусі не адрозняць.

— А ён выпадкова не беларус напалову?

— Не. Гэты — непадобна. Але ён ім стане. І не напалову, а цалкам. А напалову ён ірландзец. Яго маці была ў свой час актыўнай у Ірландскай Рэспубліканскай Арміі. Таму ў Чарлі больш еўрапейскіх рыс, чым афрыканскіх. Ну, а што скура цемнаватая, дык у нас ад гэтай спёкі хутка ў саміх будзе яшчэ цямнейшая. І яшчэ. У Ірландскай Рэспубліканскай Арміі і прадстаўнікоў Беларускай Народнай Рэспублікі напачатку стагоддзя была дамова падпісана пра ўзаемадапамогу. Вось хай Малютка Чарлі і расхлёбвае тое, што яго мамачка беларусам наабяцала.

— Але з яго знешнасцю гэта будзе зрабіць цяжэй.

Разведчык толькі ўсміхнуўся на гэта. Эх, гэтыя палітыкі! Ну і тупыя, як банджа ў лапах скунса! Ну няўжо гэты дэпартаменцкі шчур не разумее: саветы ведаюць, што на іх тэрыторыю будзе закінуты разведчык з Амерыкі. І яны яго вылічаць. І не мае значэння, якая ў яго скура. Хоць бялейшая за бялізну каханкі генеральнага сакратара ЦК КПСС. Важна, каб разведчык ведаў, па якіх правілах гуляць з імі ў такой сітуацыі.

— Ты думаеш, саветы іншага не раскрыюць? Раскрыюць. З іншай скурай думаеш не раскрыюць? Раскрыюць. І Малютку Чарлі раскрыюць. Можа ўжо расшыфравалі. Бо калі вам, палітыкам, штось становіцца вядома, то гэтая інфармацыя ўжо ў кішэні ворага. Не страшна, што яго раскрыюць. Так нават цікавей. Гэта сапраўдная інтрыга і бітва інтэлектаў. Яны яго раскрыюць, але не крануць. Будуць сачыць, адсочваць кантакты, а арышт пакінуць на дэсерт. І ён гэта будзе ведаць. І калі не дурань, то абдурыць іх у самы апошні момант і ўцячэ.

— А калі дурань?

— То адным дурнем будзе менш. І таму гэта яшчэ лепш, што ён знешне будзе адрозніваца. Будзем ваяваць, як у іх кажуць, з адкрытым забралам. Яны будуць доўга ламаць над гэтым галаву, адгадваць, што мы задумалі, і ў гэтым будзе прычына іх паразы. Бо не зразумеюць. А як яны могуць зразумець, калі мы самі не разумеем. А ён выканае сваю задачу і накладзе ім напаследак вялікую кучу пасярод Чырвонай плошчы.

(працяг будзе)

Віктар САЗОНАЎ

# Мае ўспаміны
## і тое, што пачуў, бачыў, разумеў...
## і свае погляды, рэфлексіі, высновы

### УСТУПНАЕ СЛОВА

Нарадзіўся я сёмага студзеня 1943 года ў сялянскай сям'і. Бацькі мае гэта Уладзімір (1908-1988) і Марыя з роду Чыквінаў (1910-1985). Гэта быў цяжкі акупацыйны з-за гітлераўцаў час, аднак нашы бацькі ў палавых адносінах не падалі духам і радзілі дзяцей не горш, як было гэта перад вайной. Яны духам і сэрцам адчувалі, што вораг будзе разгромлены і жыццё пойдзе намечанай каляінай і мо лепшай дарогай. І так сталася.

Як успаміналі мае бацькі, на маіх хрысцінах аднаго госця, суседа праз хату Ванюшку амаль не адлупцавалі за тое, што па-п'янаму (а самагонкі не бракавала) пачаў да нябёс выхваляць немцаў і даваць ілюзію маім дзядзькам Ваньку, Мішку (так іх звалі паточна), Феадосію, а нават майму бацьку, што ён многа ведае пра іх, а ведаў тое, што яны супрацоўнічаюць з савецкай партызанкай, ну і што яны — камуністы. Але рэшта гасцей абурылася на гэта, як Арцём Сцяпанавіч Чыквін (бацька нашага слаўнага прафесара, паэта, навукоўца Івана Чыквіна), сусед Васілёк, мой хрышчоны бацька таксама сусед Іван Гіль і іншыя і ўжо паднялі свае кулакі, каб «ахрысціць» Ванюшку. Але мой бацька, маці не дапусцілі да гэтага самасуду — бо неяк прыкра, каб у хаце запрошанага госця збілі да касцей. І таму мой бацька і жонка Ванюшкі Ольга, родам з Краснага Сяла, разумная і прыгожая жанчына, неяк Ванюшку сілай узялі пад рукі і адвялі дамоў. Таму да скандалу, на шчасце, не дайшло. Гэта быў, бадай, канец студзеня 1943 года і нашы людзі нейкімі каналамі даведаліся пра крах і канец гітлераўскай арміі пад Сталінградам і таму ў будучыню глядзелі з адкрытымі вачыма і поўнай надзеяй.

У маіх успамінах я пастараюся пісаць адну праўду, з ніякай літаратурнай фікцыяй і фантазіяй, хаця помню, калі я яшчэ быў падлеткам і многа чытаў розных кніг, і тады я ўжо разумеў, што большасць аповесцей, раманаў... гэта нішто іншае, як амаль фікцыя і хлусня. Я спытаў у бацькі (а ён быў моцна начытаны) пра гэта, і ён мне адказаў: каб пісаць адну толькі праўду ў кнізе, дык яна не будзе такой вельмі цікавай і прывабнай, а так фікцыя становіцца амаль падмуркам кожнага сюжэта і фабулы кнігі.

Але я ад гэтага адступлюся.

І яшчэ ў сваіх успамінах я пастараюся, каб нікога не зняважыць, гэта значыць — не абразіць. У мяне не будзе лаянак і брыдкіх мянушак-прозвішчаў, як у нас кажуць. Мо будзе некалькі мянушак, але яны народнага паходжання і мо паэтычнага характару і гэта свайго роду анекдот і гумар, і таму нікому волас з галавы не спадзе. І думаю, што праўдзівасць маіх успамінаў і мо цікавасць не ўцерпяць у гэтым плане.

### МОЙ РАДАВОД

Што ж, пачну ад свайго дзеда (бацькі майго бацькі Уладзіміра) Лярка (па-руску Илларион), які нарадзіўся 6 чэрвеня 1880 года. Як ён жыў, гадаваўся, вучыўся... — не ведаю, адно ведаю, што ён быў патрыётам царскіх часоў і напэўна быў граматны. Бацькі яго, мае прадзеды, гэта Антоній Панфілюк (1842-1915; памёр у дарозе ў час бежанства). Жонка яго мая прабабулька — Юстына з роду Тафілюк, 1852 г. нар., памерла 30 сакавіка 1911 года.

Недзе ў 1905 годзе мой дзед Лярка ажаніўся з Агафіяй з роду Качка. Паходзіла яна з Дубіч-Царкоўных і мела роднага брата Кандрата, які яшчэ пры царскім урадзе выбраўся з сям'ёй пад Беласток і пасяліўся ў мясцовасці Лявіцкія. Там, падобна, была добрая зямля і мала людзей у той далёкі ўжо час. У яго было дзве дачкі: Лена і Наталля — гэта мае цёткі, і калісь мяне наведвалі. Цётка Лена даўно ўжо памерла, а пра Наталлю цяпер нічога не ведаю, мо яна і памерла, бо яна 1926 года нараджэння.



У майго дзеда Лярка і бабулі Агафіі нарадзіліся сыны і то ўсе праз два гады. Першы Федзя (пасля звалі яго Феадосіем) — у 1906 годзе; Валодзя (мой бацька) — у 1908 годзе; Мяфодзій — у 1910 годзе; Міша — у 1912 годзе і Іван (Ванька) — у 1914 годзе.

Як тады жылося? Цяжка адказаць, але напэўна складана. Аднак у вёсцы дзейнічала царкоўная прыхадская школа, якую пасля перамянілі на двухкласнае вучылішча, а гэта раўняецца цяперашнім шасцю класам пачатковай школы. Узровень навукі стаяў даволі высокі. Пасля яе заканчэння па кароткім курсе абітурыент такой школы мог быць настаўнікам у іншых месцах нашага краю і зямелькі. Забыў я напісаць поўную назву гэтай дубіцкай школы, а яна гучала так: Двухкласнае народнае вучылішча. Таму стараюся пісаць дакладна і без памылак. Бо гэта наша жывая гісторыя і спадчына.

Цяпер па чарзе буду пісаць і падаваць імёны ўсіх дзяцей, якія нарадзіліся ад шлюбнай пары Антонія і Юстыны (яна мела дзявочае прозвішча Тафілюк) Панфілюкоў, а іх было багата. Аж не верыцца! І цяпер пачну ад Трафіма, які нарадзіўся 19.09.1897 года, памёр 31.12.1986 года. Яго жонка Маруся з дома Марчукоў. Нарадзіліся ім тры сыны: Анатоль — 1931 г. нараджэння, ужо ён удавец і пастаянна пражывае ў Гайнаўцы, мае двух сыноў. Дом свой пабудаваў сам, бо мае, як кажуць, залатыя рукі. Працаваў у міліцыі ў сваім падляшскім горадзе. Здаўна ён на заслужанай пенсіі і жыхары Гайнаўкі лічаць яго аўтарытэтам і маюць для яго пашану, бо ён нікога не пакрыўдзіў; гэта чалавек сумленны і поўны даверу. Ён адукаваны, як і яго малодшыя браты.

Другі сын Трафіма гэта Яўген, які нарадзіўся ў 1937 годзе, яго жонка гэта Ніна з дома Івана і Ганны Чыквін. Яна настаўніца дубіцкай школы і даўно на заслужанай пенсіі ды, на бяду, даўжэйшы час цяжка хворая. У іх дзве дачушкі Міраслава і Ялянта. І Ёля калісьці са сваім мужам падтрымлівала і спансіравала сваёй квотай беларускую «Ніву».

Яўген таксама чалавек адукаваны і пастаянны чытач ды падпісчык «Нівы» і «Часопіса». Ён многа гадоў працаваў у нашай гміне ва ўстанове для запісвання шлюбных пар (Urząd Stanu Cywilnego). Ужо таксама на заслужанай пенсіі і многа чытае кніг і часопісаў; відаць, яго цягне ў тым напрамку; хто ведае?

Трэці сын Трафіма гэта Віктар, 1940 года нараджэння. Гэта выдатны архітэктар і я думаю, што многія жыхары Беластока яго ведаюць, бо ён там пражывае са сваёй жонкай Анастасіяй (яна родная сястра Ніны, жонкі Яўгена). Яна мае таксама вышэйшую адукацыю і мае навуковае званне магістра.

Юсып, сын Антонія і Юстыны, нарадзіўся 4.04.1870 г.; памёр у 1952 г. Мелі яны дзяцей: Ганну (Ганначку), Анастасію і Дзмітрыя. Кажуць, што ён быў вельмі падобны, як выліты, да апошняга рускага цара Мікалая ІІ.

Банадыкт, чарговы сын, нарадзіўся 18.03.1889 г. (пам. у 1952 г.). У час бежанства ў Расію гэты чалавек пасля курсаў ваеннай медыцыны ў час Першай сусветнай вайны здолеў вывучыцца на фельчара і лячыў раненых салдат, а пасля ў міжваенны час лячыў жыхароў Дубіч-Царкоўных і навакольных вёсак. Яго жонка называлася Прузына. Мелі яны трое дзяцей: двух сыноў Уладзіміра і Паўла, ды дачку Ольгу.

І па чарзе буду падаваць імёны далейшых дзяцей Антонія і Юстыны. Вось яны: Ольга (5.07.1893 — ?), з мужам яна жыла недзе каля Грубешава і там палякі вельмі дрэнна да іх адносіліся і таму яны ў 1945 годзе выехалі ў Савецкую Украіну

Яўстахі (18.09.1879-1904, памёр на сухоты).

Іван (24.02.1886), ён жыў у Расі з жонкай і памёр перад 1915 г. у Маскве, быў музыкантам.

Марыя (30.01.1872 — ?).

Антонія (14.01.1883-8.06.1924) была замужам за Пахоміем (Пахонкам) Красноўскім у вёсцы Істок.

Вось столькі было дзяцей у майго прадзеда Антонія і прабабулькі Юстыны. Аж не верыцца! І я гэтага дакладна не ведаў. Звесткі пра мой радавод маю ад Яўгена Панфілюка, які многа гадоў працаваў у нашай гміне ва ўстанове, дзе былі яму даступныя метрыкі нараджэння нашых людзей. І ад яго я даведаўся, хто былі блізкія ў радстве да маёй прабабулькі Юстыны. Вось яны:

Сястра Юстыны — Наталка, 1870 г. нар., памерла ў 1959 годзе — гэта маці Арцёма, Івана, Дзям'яна, Тэклі Чыквінаў. Пра іх будзе напісана ў маёй аповесці.

Далейшыя сёстры і брат:

Марыя была замужам за Рутам, Чахі-Арлянскія (1856-1928).

Юлія (1872-?) таксама была замужам у Чахах-Арлянскіх.

Фяўронія (1854-1909), жыла 55 гадоў, была замужам у Грабаўцы за Кас'янюком.

Ефрасінія (1862-1908).

Сідар (1895-1950), меў жонку Таццяну з роду Парфенюкоў-Ніканоравых.

Лукія (1866-?).

Таксама немалы род, ужо цяжка палічыць. І хаця людзі жылі бедна, аднак радзіліся плённа, як у Бібліі напісана.

Яшчэ прыпомню, што бацькамі і сямейнікамі майго прадзеда Антонія і прабабулькі былі прапрадзед Якім (1812-1875) і яго жонка — прабабулька Юлія; пра яе звестак, на жаль, няма. І лічыць гэты радавод патрэбны толькі мне і сям'і як жывая гісторыя і памяць. А каб унясць гэта ў кніжку, я лічу непатрэбным. Толькі самым галоўным фактам пра самых галоўных герояў тут месца. А чытанне і пасля асобыя развагі і рэфлексіі, а таксама розныя рэплікі пакінем на пазней.

Тут вышэй успомнены асобы майго роду, а толькі некалькі з іх памятаю, пра некаторых вельмі добра і многа ў «Ніве» калісьці пісаў. Хаця б дзядзька, а хутчэй дзед Трафім, мой любімы настаўнік з першага класа ажно да канца. Банадыкта таксама помню як дубіцкага ўрача у той час. Юсыпа чамусьці не помню і рэшты з іх таксама, бо пераважна мае родзічы-сваякі паўміралі раней майго нараджэння.

А з другой лініі радаводу са стараны прабабулькі Юстыны добра памятаю Наталку, якая жыла ў дачкі Тэклі, — гэта была разумная і добрая бабулька, моцна згорбленая, бо мела цяжкае жыццё; вельмі добра разумела і тлумачыла сны. Памятаю таксама, але як праз сон, брата Наталкі, Сідара. Ён быў круглатвары чалавек, з рыжай барадою, вельмі падобны да майго дзядзькі Ванькі (адзін жа род), і меў прымаўку «Ховай Божа». І дзядзька Ванька недзе ў 1931-1932 гадах ажаніўся з яго ўнучкай Марыськай; і бацюшка нават не хацеў іх вянчаць: «Да ведь вы близкие родственники и я должен обратиться к церковным властям (у кансісторыю) в Варшве, и они решат». Ці ён тады «абрашчаўся», ці не, я не ведаю, але звянчаў, толькі больш грошай узяў за вянец. А кансісторыя? Але і сёння такія самыя правы, бо як жа жаніцца амаль з дваюраднай сястрой? А так было з гісторыяй шлюбу і вянчання майго дзядзькі Ванькі з Марыськай. І сапраўды гэтак было, «Ховай Божа», любімая прымаўка Сідара спраўдзілася. Хачу быць аб'ектыўным, таму лічу лішнюю пісаніну за нудную і лепш яе прамінуць. Адвык я ўжо пісаць. І рукі ўжо не ходзяць, як і розум, але тое, што запамятаў і пачуў ад бацькоў і людзей — напішу. І тое, што сам асабіста перажыў і помню — таксама напішу. І прашу Бога, каб Ён даў мне выканаць гэтую высакароднную мэту, каб наша мясцовасць трохі ўзбагацела сваёй жывой гісторыяй, як і спадчынай. І я пішу адну праўду.

Мікалай ПАНФІЛЮК

# Святліцу перавезлі з Орлі



Размова з **Мікалаем КУКОЛКАМ**, 1948 года нараджэння, шматгадовым солтысам Шарнёў Арлянскай гміны.

❖ **У Шарнях за многімі сем'ямі прозвішча Куколка.**

— Так, усе з адных колішніх каранёў.

❖ **А Ваша сям'я?**

— У мяне было пяць сёстраў і два браты, а двое памерла — разам было дзевяць. У майго бацькі Тараса было 18 гектараў зямлі — хто б яе абрабляў?

❖ **Школа?**

— У падставоўку хадзіў у Маліннікі, сем класаў. Тады яшчэ не было моста на рацэ Белай і не было дарогі ў Малліннікі. На рацэ ляжалі дзве калоды і па такой кладцы пераходзілі. Дарога была аж праз Дубінцы (Бараноўцы), многа далей.

У Малінніках, у двухгадовай школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі вучыў настаўнік Яўген Ляўчук, які даязджаў з Орлі на кані, а зімою ў санях; ён забіраў і хлапцоў з Шарнёў. У той час такой школы ў Орлі не было. Але я ў школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі хадзіў ужо ў Орлю.

❖ **Ці пасля прыдалася Вам гэтая школа?**

— Пэўна, прыдалася. Пасля ў Бельску была тая школа завочная. Мая сястра, 1943 года нараджэння, здавала ўжо ў Бельску; таксама хлопцы з 1944 года.

❖ **А пасля школы?**

— Паехаў на працу ў Лембарк, за Гданьскам, на будову ў пэгеэрах. Там добра плацілі, зарабляў каля трох тысяч злотаў у месяц. Там далі пасведчанне, што закончыў сельскагаспадарчыя майстэрскія курсы.

❖ **Адкуль Вы даведаліся, што там ёсць праца?**

— З Беластока прыязджаў да нас вярбоўшчык — за аднаго завербаванага чалавека плацілі яму тысячу злотаў. Спачатку жылі мы там па хатах і ў мабільных бараках.

❖ **Якія там былі людзі? І якая праца?**

— Людзі былі розныя: кашубы, немцы, украінцы. Дырэктарам пэгеэра быў немец, а загадчыкам украінец.

А якія там прыгожыя былі палацы! А мы іх раскідалі, аж шкада было. Развальвалі ўсё, цэглу чысцілі. Так было ў Капаневе і Зеўне. Прыйшлі раскідаць, а там у падвале куры.

Было нас там дваццаць тры чалавекі з нашых старон, у тым ліку з Шарнёў я, Коля Троц, Місюк і Валодзя Сасна. Дваіх там ажаніліся і асталіся. Працавалі мы там два гады. Увесь час перакідалі — то будовы, то рамонты. Былі ў Джэўне і Капаневе.

❖ **Ці між сабою размаўлялі па-свойму?**

— Так. Там і ўкраінцаў поўна было.

❖ **А пасля вяртання?**

— Калі вярнуўся з Памор'я, то стаў на працу ў Беласток, у новы шклозавод. Рабілі

чытайце 11



## Дата з календара



## 140 гадоў з дня нараджэння Фелікса Стацкевіча

Беларускі грамадска-культурны дзеяч, выдавец, педагог, актывіст Беларускай сялянска-работніцкай грамады і Таварыства беларускай школы Фелікс Стацкевіч нарадзіўся 2 (14) снежня 1879 г. у Шчучыне ў сям'і каморніка. Бацькі лічылі сябе палякамі, так што выхоўваўся ён у польскім духу. У гімназію яго аддалі аж у Пецярбург (навучаўся там у 1891-1900 гг.). Ужо ў гімназіі далучыўся да грамадскай дзейнасці.

У 1900 г. Стацкевіч паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, адкуль за ўдзел у дэманстрацыях у лютым і сакавіку 1901 г. быў выключаны, арыштаваны і высланы на радзіму пад нагляд паліцыі. Займаўся прыватнай настаўніцкай працай. У гэты час пачаў асэнсоўваць сваю нацыянальную прыналежнасць. Улетку 1901 г. у маёнтку Сіткаўцы Грабіцкіх пазнаёміўся з Алаізай Пашкевіч. Увосень 1902 г. вярнуўся ў Пецярбург, дзе далучыўся да беларускага гуртка, пазнаёміўся з братамі Луцкевічамі і земляком Вацлавам Іваноўскім. Урэшце стаў сябрам Беларускай рэвалюцыйнай грамады. Пэўны час працаваў у прыватнай натарыяльнай канторы ў Марыупалі.

Вясной 1903 г. Стацкевіч выехаў з Пецярбурга працаваць на Прыладажскіх каналах і часова страціў сувязь з беларускім рухам. Вясной 1905 г. аднавіўся на вучобу ў Пецярбургскім універсітэце, потым па намаўленні Іваноўскагапаехаўу Кракаўвучыццадрукарскай працы. Атрымліваў фінансавую падтрымку ад прадстаўнікоў ППС, непасрэдна ад Юзафа Пілсудскага. Вярнуўся ў Вільню ў жніўні 1905 г. У рэвалюцыйны час вёў прапаганду ў Вільні і Мінску, наладзіў выпуск пракламацый. Між іншым быў надрукавана „Хрэст на свабоду" Цёткі. Удзельнічаў у партыйным з'ездзе БРГ у канцы 1905 г. У пачатку траўня 1906 г. пераехаў у Менск і падпольна заняўся друкарскімі справамі. У дзень друкаваў да 400 улётак. Друкарня „Аганёк" (мянушка Стацкевіча) працавала да жніўня 1907 г. і спыніла працу з ліквідацыяй партыйнай працы ў Мінску. Увосень 1907 г. вёў школку ў мястэчку Івянец, рыхтаваў дзяцей да гімназіі.

З 1908 г. працаваў сакратаром мінскіх адвакатаў Шабуні і Дземідовіча ў Ігумене. Там пачаў ствараць бібліятэку. Потым паехаў у Расею да інжынера Басяцкага ў Ноўгарад працаваць гідратэхнікам на прыладажскіх каналах, кантактаваў з пецярбургскімі беларусамі. У 1913 г. Стацкевіч скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт, пасля гэтага аж да 1919 г. працаваў у Цвяры. У 1919-1920 гг. — супрацоўнік выдавецкага аддзела Наркамата асветы Літбелу. У 1920-1923 гг. — супрацоўнік Віленскага беларускага саюза кааператываў. У 1923 г. выкладаў лацінскую мову і быў дырэктарам Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Скарыны. У 1926 г. абраны сябрам Управы ТБШ, а пасля расколу на нелегальным з'ездзе ў 1929 г. абраны старшынёй Галоўнай управы ТБШ. Адначасна працаваў у Савеце адвакатаў пры Віленскім апеляцыйным судзе. У 1930 і 1933 гг. Стацкевіч двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі, другі раз за выданне часопіса ТБШ. У 1939-1941 гг. настаўнічаў у Вялейцы і Клецкім раёне. У вайну працаваў суддзёй у Смаргоні, у 1944-1949 гг. — супрацоўнік Беларускага музея ў Вільні, у 1945-1949 — музея Пушкіна ў мястэчку Мяркучай пад Вільняй.

Фелікс Стацкевіч быў вядомым актывістам руху эсперантыстаў, склаў „Эсперанта-беларускі слоўнік" (рукапіс у Інстытуце мовазнаўства НАН Беларусі), пераклаў на мову эсперанта кнігу Л. Петражыцкага „Тэорыя права і маральнасць" (публікацыя не выявілена).

У старасці жыў у нястачы ў доме інвалідаў. Памёр 21 чэрвеня 1967 г. у Вільні, пахаваны на Спаса-Ефрасінеўскіх могілках.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

10 ☞ працяг

там сподкі, шклянкі, жырандолі. Працаваў я там паўгода. І будучая жонка там працавала. З жонкай зналіся мы з Шарнёў. Вярнуліся да сябе на вёску і тут жонка ўрадзіла. Я працаваў на бацькавай гаспадарцы. Нарадзілася нам два сыны і дачка.

❖ **Ці бралі Вас у войска?**

— Хацелі, але раней меў адтэрміноўку з прычыны грыжы. А было так: калі паехаў у Лембарк, то грыжу пабачыў такі вясёлы лекар. Пабачыў і сказаў: „Jutro pana wyleczę”. І вылечыў, без аперацыі, уколамі разагнаў. То калі я тут ставаў на вайсковую камісію ў Бельску, то хірург Урбановіч пытаў мяне, дзе грыжа. Быў здзіўлены і хацеў скантактавацца з тым хірургам; яны былі знаёмымі.

У войска не ўзялі, бо быў адзіным карміцам сям'і. А пасля, калі мне было 22 гады, клікалі ў прызыўную ў Беласток, але ў мяне было пасведчанне, што жонка цяжарная. І да мяне на камісіі: „Co? Pan zwariował! Tu nie ma ludzi, pojedzie pan do Gdańska!” А я: „Я ўжо два гады быў у Гданьску, бачыў мора”. І перавялі ў запас, далі катэгорыю А.

❖ **А цяпер войска толькі прафесіянальнае...**

— Сын майго швагра вярнуўся з Афганістана. Пасля паўгода адаслалі яго дадому. То ён закончыў вайсковую школу і астаўся ў войску.

❖ **Вы таксама шмат гадоў працавалі трактарыстам...**

— Калі я вярнуўся з Беластока, то тут, у Шарнях, быў сельгасгуртох у панадворку Стэца, які быў кіраўніком. У гуртку разам з Шарнямі былі Маліннікі, было многа машын. Далі мне трактар „пяцьдзясятку”.

У Орлі ў той час была міжгуртковая машынная база, а эскаэр узнік у 1974 годзе. У эскаэры прапрацаваў я чатырнаццаць гадоў. Кіраўнік пачаў чапляцца, то я знайшоў іншую працу, хаця прэзас прапанаваў мне астацца, а неўзабаве таго кіраўніка звольнілі. Пайшоў я ў ветэрынарную лячэбніцу за качагара, добра плацілі. У эскаэры зарабляў я дзве тысячы злотаў, а качагарам адразу сем тысяч; паліў чатыры сезоны. Пасля ліквідацыі лячэбніцы 31 снежня 1999 года перайшоў я пад гміну на чатыры месяцы.

❖ **Чаму, паводле Вас, эскаэр занепаў?**

— Людзі атрымалі даплаты да поля, а эскаэр не атрымаў, толькі падаткі плаціць трэба было. Такая палітыка — каб развваліць. І пэгеэры таксама.

❖ **Ці Вам партыя дапамагла?**

— Вядома! Таму меў я працу. Бо ў сельгасгуртку кіраўнік чапляўся, казаў што звольніць. То я запісаўся ў партыю.

❖ **У Шарнях людзі пабудавалі святліцу грамадскім чынам...**

— Перавезлі з Орлі вялікі будынак, які стаяў паміж пякарняй (Ізбуцкага) і гаспадай (Быў гэта будынак жыда Бэрка, які той адбудаваў пасля пажару 18 мая 1938 года, была ў ім гаспода — М. М.)

Калі ў 1952 годзе частка вёскі згарэла, ад недакурка, то пагарэльцы, як Рыдз, Карзун, пасля жылі ў будынку святліцы. Шарні гарэлі таксама ў канцы Другой сусветнай вайны; уцалела толькі пяць хат з сямідзесяці.

❖ **На пенсію?**

— Пайшоў у 2015 годзе з КРУС. Працаваў на КРУС і ЗУС, то з ЗУС далі дадатак 200 злотаў. Апошні год структурный пенсіі плаціі 2950 злотаў, а зараз маю 1180 злотаў.

❖ **А як памяняліся Шарні? Ці ёсць прыезджыя?**

— Ёсць з Гайнаўкі, Варшавы; але тут пастаянна не жывуць.

❖ **Дзякую за размову.**

❖Пытанні і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

## Гарадоцкая дэмаграфія

Гарадоцкая гміна Беластоцкага павета вялікая па плошчы — яна ў 430 квадратных кіламетраў. Налічвае яна 35 салэцкіх вёсак, а ўсіх паселішчаў тут 45. Да 2010 года было яшчэ паселішча Казіны Лес. Зараз яго няма.

Цяпер у Гарадоцкай гміне пражывае 5197 чалавек — 2507 мужчын і 2690 жанчын (тры гады таму было 5409 жыхароў). Гарадок налічвае 2387 чалавек (тры гады таму 2464). Апрача Гарадка да найбольшых вёсак прыналежалі Валілы-Станцыя — у ёй 582 жыхары ды тут па-суседску ёсць Валілы-Двор — 131 жыхар і Валілы — 98 жыхароў, Залукі — 234, Вейкі — 138, Бабро́ўнікі — 119, Меляшкі — 74 і побач Меляшкі-Каленія — 50, Заречаны — 100, Зубры і Пяшчанікі — па 84 жыхары, Бялевічы — 83, Случанка — 78, Сафіпаль — 77, Калодна — 70, Каралёвы Мост — 66, Боркі і Руда — па 43 ды Вераб'і і Страшава — па 39, Лужаны — 38, Зялёная — 37, Грыбаўцы і Радунін — па 34.

Невялікія вёсачкі гэта Скрабляні — 30, Каралёвае Стойла — 29, Навасёлкі — 28, Пераходы — 27, Даўнева — 25, Дзярнякова — 24, Коматаўцы — 21, Мастаўляны — 19, Зубкі — 18, Падзалукі — 17, Свіслачаны — 16, Пілатоўшчына — 15 і Юзэфова — 14. Найменшымі пасяленнямі на тэрыторыі Гарадоцкай гміны з'яўляюцца Нарэйкі — тут пражывае 9 чалавек, Глейск — 8, Ярылаўка — 7, Засады і Габяты — па 4. **(яц)**



## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. месца, дзе распальваецца агонь у... качагара = 9 _ 22 _ 2 _ 1 _;
2. амерыканскі грузапасажырскі аўтамабіль павышанай праходнасці = 3 _ 24 _ 17 _ 13 _;
3. малая Зоя = 4 _ 25 _ 26 _ 29 _ 19 _;
4. ліпкае рэчыва для трывалага змацоўвання = 6 _ 11 _ 12 _ 10 _;
5. пчаліная сям'я = 27 _ 30 _ 31 _;
6. хімічны элемент Hg = 16 _ 15 _ 23 _ 20 _ 21 _;
7. невялікая рухавая прэснаводная рыбка (*Misgurnus fossilis*) = 7 _ 5 _ 8 _;
8. нязладжанае негалоснае гучанне = 14 _ 28 _ 18 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 45 нумара**

Альт, нуда, семя, тона, Ур, чаша, Шышкін, яма, янот.

Рашэнне: **Няшчасная тая мыш, што мае толькі адну нару**.

Кніжныую ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.


## 08.12 — 14.12

**(22.03.20.04.)** 9-13.12. тое, што замецена было пад дыван, раскрыецца, узаемныя прэтэнзіі і жалі ў пары разліюцца без кантролю. 11-13.12. убачыш тое, што да тае пары было імглістае. Будзеш адважны, нішто цябе не знеахвоціць. Вялікая асабістая краса. Магічныя сустрэчы з сябрамі. Дбай аб свой пазваночнік, старайся не прабываць сярод чхаючых.

**(21.04. — 21.05.)** 9-13.12. незалежна ад акалічнасці паставіш на сваім. Наладзіш новыя кантакты. 10-12.12. шчаслівая адмена ў інтарэсах. Вялікая папулярнасць. Можаш кагосьці зачараваць. Але і пасварыцца з блізкімі. Паранены гонар і нязздзейсненыя чаканні могуць зашкодзіць у пары.

**(22.05. — 22.06.)** 8-10.12. схадзі да лекараў. Блізняты з ІІ дэкады могуць цяжка перанесці дні да святаў. 11-13.12. будзеш у самым цэнтры здарэнняў. Пабуджана ўява і мастацкія здольнасці. Вялікая інтуіцыя вядзе да поспеху. Напачатку тыдня будзеш неспакойны, нецярплівы; не пасварыся з шэфам!

**(22.06. — 23.07.)** 8-10.12. у тваім жыцці можа паявіцца хтосьці, хто табе закруне ў галаве. 10-16.12. пераможаш страх і стрэс. 11-15.12. любоўны скок у бок можа сур'ёзна пагразіць тваёй сур'ёзнай сувязі. Будзеш у піку жарсці і ўявы! Не захапляйся пераацэнкамі тавараў. Схадзі да лекара. Насі з сабою бутэльку вады.

**(24.07. — 23.08.)** 8-10.12. не плануй службовых выездаў, выступленняў. 11-13.12. наведаюць цябе сябры, вывалакуць з хаты; будзе весела. 9-13.12. вернуцца сардэчныя ўспаміны. Калі шукаеш працу, не спыняйся. З 10.12. (да 20.12.) можа здарыцца штосьці незвычайнае, што адкрые табе дарогу да новай, чаканай пасады ці занятку. Не правакуй ворагаў і не спакушай лёсу. Не жартуй з катарам.

**(24.08. — 23.09.)** Афармляй нялёгкія справы, прапхнеш іх. 8-10.12. пільнуй кашалёк на пакупках, не шалей на пераацэнках. 9-13.12. момант на легалізацыю пары, супольнага жылля, дзіцяці. Прароцкія сны, знакамітая інтуіцыя, не падвядзе інстынкт. Па-майстэрску спалучыш розум і прадчуванне. Непланаванае ўдасца лепш чым планаванае. 11-13.12. не з'еж і не выпі зашмат.

**(24.09. — 23.10.)** 8-10.12. прыліў натхнення. 11-13.12. можаш сустрэць братнюю душу. Не будзь зайздросным і лішне падазраваючым 11-15.12. Хопіць усё аддаваць сям'і! Не сядзі са складзенымі рукамі — недахоп актыўнасці сапхнуць цябе можа ў псіхічны дол. Рэалізуй самыя смелыя мары. Дбай аб сваю пячонку.

**(24.10. — 22.11.)** 8-10.12. сэрца заб'е мацней для асобы, якую добра ведаеш. Дзякуючы сумленнай працы і адданасці ўжо з 10.12. (да 20.12.) адтрубіш поспех. 11-15.12. зачаруеш кожнага каго схочаш. Марс дадасць табе крылаў. Больш бонусаў ад жыцця. 10-16.12. рассакрэціш несумленнага спакусніка. Больш руху сарве табе пару кілаграмаў. Еж сонечныя фрукты.

**(23.11. — 22.12.)** 8-10.12 шыкуецца добрае кампанейскае замяшанне. Але кан'юнкцыя Венеры з Сатурнам 9-14.12. можа надшарпнуць тваё пачуццё ўласнай вартасці. Імпульс да навукі пасля 9.12. Будуць прапановы абучэнняў — адразу заяўляйся. Не шкадуй ні адной выдадзенай залатоўкі на інвестыцыі, абсталяванне — прыбытак будзе ў шмат разоў. Пільнуйся ад інфекцый.

**(23.12. — 20.01.)** Не праваронь свайго жыццёвага шанцу. З 1.12. (да 20.12.) будзеш мець нагоды даказаць, што ты — незаменны. 11-15.12. для народжаных у ІІІ дэкадзе жарснае каханне, можа быць з першага пагляду. Афармляй да канца цяжкія справы, акалічнасці будуць табе спрыяць. 8-10.12. узмоцненая крэатыўнасць. Не пазбягай лекараў, трапіш на вельмі добрага спецыяліста.

**(21.01. — 19.02.)** Нішто табе не пакрыжуе планаў з 10.12 (да 20.12.). 12-14.12. удасца табе расслабіцца і не думаць аб праблемах. 9-13.12. партнёр можа выцягнуць старыя жалі і прэтэнзіі, пра якія не схочацца табе слухаць і трэснеш дзвярыма. Не капіруй іншых. Пазбягай размоў, ад якіх будзе залежаць твая будучыня; у спешцы можаш блага вырашыць. Не саромся прасіць дапамогі.

**(20.02. — 21.03.)** 8-10.12. незвычайныя сны і мастацкае натхненне. 11-15.12. не прапусці нагоды пазнаёміцца з кімсьці вельмі цікавым. Тыя, што табе хочуць зашкодзіць, не будуць мець такога шанцу, а тыя што цябе любяць і схочуць памагчы — зробяць для цябе многа. З 10.12. (да 26.12.) хутчэй не аддавай сябе працы ў калектыве, што выйдзе табе к дабру — прынамсі не ўключышся ў інтрыгі і канфлікты. Хаця 8-10.12. яшчэ серыя памылак і згубаў; справішся. Збегай да дантыста.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Стракаты верасень

15 лістапада ў Варшаўскім універсітэце адбылася 5-я Міжнародная навуковая канферэнцыя,ладжаная Цэнтрам беларускіх штудыяў Універсітэта. Тэма канферэнцыі: „Падзелены/аб'яднаны край: Беларусь і Польшча ў верасні 1939 года". У канферэнцыі прынялі ўдзел вучоныя з абедзвюх названых краін.



Ежы Гжыбоўскі і Аляксандр Смалянчук

**Прафесар Рыгор ЛАЗЬКО**: — У кулуарах Рыжскай канферэнцыі, якая завяршала польска-савецкую вайну 1919-1920-х гадоў, сустрэліся два лідары беларускіх палітычных груповак Вацлаў Ластоўскі з боку БНР і Аляксандр Чарвякоў ад БССР. Польскі бок меў прапанову стварэння беларускай буфернай несавецкай дзяржавы. Калі б польская дэлегацыя прапанавала Ластоўскага ў якасці кіраўніка беларускага ўрада, то савецкі бок меў у запасе менавіта Чарвякова на гэтую пасаду. Гаворыцца, што на гэтай канферэнцыі Беларусь была падзелена; але хто дзяліў? Для падзелу трэба двух суб'ектаў. З аднаго боку Польшча, а з другога? Расія. Але беларускі бок да адкрытага фармулявання гэтага пажэння яшчэ не гатовы. У час тае канферэнцыі набліжаўся варыянт іншага лёсу Беларусі; у польскай гістарыяграфіі гэты варыянт добра вядомы, хаця польская гістарыяграфія яго не акцэнтуе. Тут на ўвазе ідэя выказаная кіраўніком польскай дэлегацыі Янам Домбскім, які на самым пачатку кастрычніка 1920 года падчас адной з узаемных сустрэч з кіраўніком савецкай дэлегацыі Адольфам Іофе прапанаваў адвесці войскі ад этнічнай тэрыторыі Беларусі на 25 кіламетраў: мы на захад ад Буга, а вы на ўсход, на Смаленшчыну. Гэта альтэрнатыўны варыянт на той выпадак, калі Савецкая Расія не згаджалася б на аддачу Польшчы чыгуначнай лініі Ліда — Баранавічы — Лунінец — Сарны. Польскай дэлегацыі было важна затрымаць у сваіх межах гэтую чыгуначную лінію. Савецкае палітбюро збіралася ў гэтай справе некалькі разоў у пачатку кастрычніка. І ў выніку было рашэнне саступіць чыгунку, але не згаджацца на стварэнне несавецкай беларускай дзяржавы на беларускай этнічнай тэрыторыі. Такім чынам той праект не быў рэалізаваны. У выніку версальскіх рашэнняў на карце Еўропы з'явілася каля дзесяці новых дзяржаў, большасць якіх стала цвёрдымі элементамі гэтай сістэмы і яны гэтую сістэму кансалідавалі. Але запар з тым былі і такія, як БНР, якая не здолела ўтрымацца; таксама Украіна. Якое ж тады магло быць стаўленне ўкраінскага ці беларускага нацыянальнага руху, калі версальская сістэма зафіксавала падзел так беларускага, як і ўкраінскага народаў на дзве часткі. „Паселкі наш край папалам, каб панскай вытаргаваць ласкі, вось гэта — вам, а гэта — нам, няма сумлення ў душах рабскіх" — Алесь Дудар. Ёсць цэлая анталогія твораў, прысвечаных падзеленай Беларусі. Якуб Колас: „Хіба забудзем мы тыя межы, што правадзілі без нас? Раны глыбокі, ох, яшчэ свежы! Помсты агонь не пагас. Нас падзялілі — хто? Чужаніцы, цёмных дарог махляры. К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!.. Нашы тут гоні, бары!" Верш Дудара паўстаў пасля суда над Грамадой, якая вырасла на грунце супраціўлення палітыцы польскіх улад у адносінах да беларусаў, хаця з дапамогай савецкіх рук. Беларускі нацыянальны рух выкарыстоўваўся савецкімі ўладамі а польская палітыка стварала для гэтага падставы. Я прайшоўся па Алеях Уяздоўскіх Варшавы і пабачыў як шмат новых помнікаў з'явілася, якіх дзвццаць гадоў таму там не было: не было помнікаў Пілсудскаму, Вітасу, Карфантаму. На сваім помніку маршал Пілсудскі апіраецца на меч. Мне здаецца, што меч быў добрай апорай для польскай дзяржавы да 1920 года. Далей яго было недастаткова — трэба было апірацца і на іншыя рэсурсы. У паводзінах з беларускім і ўкраінскім народамі пераважаў, на жаль, меч. Мяча не дастаткова — трэба абапірацца на ўсе цывілізацыйныя рэсурсы для таго, каб мець на сваім баку поўную падтрымку сваіх суседзяў. Калі б версальская сістэма не фіксавала падзелу ўкраінскага і беларускага народаў, яна была б больш трывалай. Усходнія граніцы Польшчы і Літвы былі ў 1923 годзе прызнаны дзяржавамі Антанты.


Рыгор Лазько

**Доктар Тадэвуш ГАВІН**: — З рассакрэчанай прамовы Сталіна з 1939 года вядома, што справа была не ў вызваленні беларускага і ўкраінскага народаў, толькі ў ліквідацыі ІІ Рэчы Паспалітай. Чырвоная Армія заняла 52% тэрыторыі Польшчы і 25% насельніцтва. Дырэктыва, якая была пастаўлена перад Чырвонай Арміяй ставіла задачу саветызацыі захопленых земель; усталяванне такой структуры ўлады, якая існавала ва Усходняй Беларусі. Вялікая расслоенасць грамадства і яго адносная беднасць спрыялі сімпатызаванню саветам і незадавальненню польскім парадкам. У агульным вобразе мяркуецца, што намагалі ўсталяванню новай улады толькі нацыянальныя меншасці — беларусы, украінцы, жыды. Зараз выяўляецца шмат дакументаў, якія сведчаць, што і частка польскага насельніцтва падтрымала савецкую ўладу і актыўна ўдзельнічала ў яе ўсталяванні і ўкараненні на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Пасля вайны тая частка актыўна ўдзельнічала ў структурах улады ПНР. Прыбываючыя ўслед за Чырвонай Арміяй савецкія чыноўнікі мелі ў першую чаргу ліквідаваць існуючыя структуры польскай улады на тэрыторыі Заходняй Беларусі, пасля склікаць Народны сход, каб усталяваць тут выканаўчую, судовую ўлады ды рэпрэсіўны апарат. Насуперак чаканням многіх беларусаў, што цяпер настане іх улада, так не было; усе пасады, нават калі былі вакансіі, быў поўнены беларусамі, рускімі і яўрэямі прывезенымі з Савецкага Саюза. У структурах выканаўчай улады ўладкавана 31 тысячу спецыялістаў для арганізацыі грамадскага жыцця. У Баранавічах, дзе створана абласны выканкам, на амаль 80 рабочых месцаў было занятых толькі двух беларусаў з Усходняй Беларусі, а далей 19 украінцаў і 38 жыдоў. Вялікую ролю ў саветызацыі насельніцтва адыгрывала партыйная арганізацыя. Сюды таксама прыехала 4,5 тысячы партпрацаўнікоў з Мінска і Масквы, 6 тысяч з усходніх раёнаў БССР для ідэалагічнай працы. Адразу, у 1939 годзе ў Заходняй Беларусі былі ўсталяваны судаводства і рэпрэсіўны апарат, поўнасцю з прысланых з СССР людзей. Да канца 1939 года арыштавана 2422 палякаў, 661 беларуса, а ў 1940 годзе 13 414 беларусаў, 4461 палякаў і каля дзевяці тысяч жыдоў; так што шмат беларусаў і жыдоў колка пацярпела ад савецкай улады. Каб усаветызаваць Заходнюю Беларусь на савецкі лад, трэба было пазбыцца тае часткі мясцовага насельніцтва, якая магла б перашкаджаць саветызацыйным мерапрыемствам. Таму было прынята рашэнне аб дэпартацыі мясцовага насельніцтва на ўсход. 22 тысячы выселена з прыгранічнай паласы на ўсход БССР. Звыш 120 тысяч дэпартавана ў ходзе чатырох дэпартацый, а магчыма, што і 150 тысяч. І найважнейшае — праводзілася саветызацыя мясцовай моладзі цераз савецкае школьніцтва, якое ўводзілася на тэрыторыі Заходняй Беларусі. У маёй школе ў Ласосне, дзе ніхто з вучняў не ўмеў гаварыць па-расійску, з першага па чацвёрты клас былі настаўнікі з усходу СССР і вучылі яны да канца 1960-х гадоў.


Тадэвуш Гавін

**Прафесар Лена ГЛАГОЎСКАЯ**: — Пра адносіны беларусаў да падзей верасня 1939 года можна гаварыць у кантэксце да іх спадзяванняў. Зараз большасці той верасень асацыюецца з 17 верасня, але варта вярнуцца да 1 верасня, калі пачалася Другая сусветная вайна, якая дакранулася і да беларусаў. Верасень 1939 года асацыюецца ў беларусаў з далучэннем Заходняй Беларусі да СССР пасля 17 верасня. Варта прыгадаць, што частка беларусаў, якія 1 верасня служылі ў Войску Польскім, прымала ўдзел у абарончай вайне 1939 года. Паводле ацэнак Ежы Гжыбоўскага ў пачатку верасня 1939 года ў польскім войску служыла прынамсі 10 тысяч беларусаў польскага грамадзянства. Нягледзячы на малалікія выпадкі ўхілення ад службы і ўцёкаў, беларускае насельніцтва станоўча паставілася да мабілізацыі ў сакавіку 1939 года. Паўплывала на гэта м.інш. адсутнасць палітычных сіл, якія б заклікалі да байкоту аб'яўленай мабілізацыі. У верасні 1939 года лік беларусаў у польскім войску быў найбольшы і сягаў 70 тысяч асоб. Мабілізацыя тая ахапіла і выдатных беларускіх дзеячаў, у іх ліку лекара Станіслава Грынкевіча і Францішка Умястоўскага. Абодва трапілі ў савецкі палон пасля 17 верасня 1939 года, бо служылі на ўсходзе. Станілаў Грынкевіч быў у Граеве, удалося яму ўцячы з савецкага транспарту і дабрацца дахаты, а Францішак Умястоўскі трапіў у казельскі лагер і стаў адной з катынскіх ахвяр. Большасць вядомых дзеячаў з міжваеннага перыяду не падлягала мабілізацыі, беручы пад увагу няпэўныя адносіны да польскай дзяржавы; частка з іх у верасні 1939 года сядзела ў Картуз-Бярозе. Большасць беларускіх прызыўных служыла здалёк ад родных мясцін. Варта тут згадаць пра вядомага беларускага пісьменніка Янку Брыля, які ў абарончай вайне 1939 года ваяваў у абароне Гдыні; адтуль, здалёк ад родных мясцін, складана было некуды збегчы. І магу таксама прывесці прыклад майго дзеда, сяржанта Паўла Казлоўскага, якога часць была перакінута з Берасця ў Тухольскія бары, дзе пайшло магутнае наступленне нямецкіх войск. Мой дзед стаў у канцы жніўня 1939 года пісаць дзённікі. У сілу савецка-нямецкіх пагадненняў палонныя беларускай і ўкраінскай нацыянальнасцей павінны быць звольнены і адпраўлены ў Савецкі Саюз. І была ў іх дылема, якую ў склаўшайся сітуацыі падаць нацыянальнасць: польскую ці беларускую. І 27 жніўня 1940 года ён запісаў тую дылему — куды падацца і што рабіць. Тых, якія падаліся беларусамі, немцы адаслалі ў СССР і вядома як склаўся іх лёс. Дзед рашыў астацца; бабуля прысылала лісты, каб дадому не вяртаўся, чаго ён не мог зразумець — у чым справа, што мае сядзець надалей у лагеры. Вядома, частка беларусаў з выразнай нацыянальнай ідэнтычнасцю стала супрацоўнічаць з немцамі, напрыклад, малодшы Станіслаў Грынкевіч. Аднак большасць беларускіх палонных не пайшла на супрацоўніцтва з немцамі. У беларусаў, якія не служылі ў польскім войску, склалася іншая сітуацыя. Беларуская інтэлігенцыя ўскладала вялікія спадзяванні на савецкія ўлады. Для беларускай эліты было гэта ўз'яднанне беларускіх зямель і шанс на беларускую дзейнасць у БССР. Першымі адчулі вызваленне беларускія дзеячы, вязні Картуз-Бярозы, якія з прыходам Савецкай Арміі выйшлі на свабоду; таксама вязні віленскіх Лукішак. Ну, Вільня ўпершыню апынулася ў межах Беларусі. Антон Луцкевіч гаварыў пра цяжкае жыццё беларусаў пад прыгнётам польскіх паноў, пра здзекі над беларускай культурай і мовай у польскі час. Гэтак сама выказваліся пра дыскрымінацыю беларусаў і іншыя дзеячы. Францішак Грынкевіч восем гадоў пасля заканчэння ўніверсітэта ўвесь час не мог уладкавацца на працу па прычыне сваёй беларускай нацыянальнасці. Спадзяванні на лепшае стаўленне да беларусаў пад саветамі аказаліся ілюзорнымі. Расчараванне наступіла вельмі хутка, бо Вільня неўзабаве была перададзена Літве. А яшчэ да гэтага самыя актыўныя дагэтуль віленскія беларусы былі арыштаваны і вывезены. Затое маладыя дзеячы ступілі на дзяржаўныя пасады і іх спадзяванні часткова апраўдаліся. На Беласточчыне ўпершыню ад 1919 года маглі дзейнічаць беларускія школы.

(працяг будзе)

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 49